# За датэрміновае выкананьне пастановы ўраду аб культзбору

Пад выпрабаваным кіраўніцтвам камуністычнай партыі і яе ленінскага ЦК, Савецкі саюз дабіўся вялізарнейшых перамог у будаўніцтве сацыялізму, у пасьпяховым выкананьні пяцігодкі за чатыры гады. Па цэламу раду важнейшых галін народнае гаспадаркі (нафта, энэргэтыка, сельскагаспадарчае машынабудаўніцтва і інш.) пяцігадовы плян выканан у $2^1/_2$—3 гады.

Дасягнуты вялізарны рост буйнай прамысловасьці. Уступіла ў строй рад новых заводаў-гігантаў (Аўтазавод, АМО, Сталінградзкі і Харкаўскі трактарныя заводы і інш.), хутка будзе пушчаны Магнітбуд, Кузнецкабуд, Днепрабуд. Маюцца вялізарныя дасягненьні ў мэханізацыі Донбасу.

Разьвіцьцё сацыялістычнай сельскай гаспадаркі дасягнула нябачаных посьпехаў. Значна павялічылася колькасьць калгасаў, МТС, звыш 62 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак Савецкага саюзу аб'яднаны ў калгасах, а ў важнейшых збожжавых раёнах у асноўным завершана суцэльная калектывізацыя.

Значна палепшылася культурнае абслугоўваньне і матар'яльна-бытавое становішча рабочае клясы і ўсіх працоўных. З году ў год павялічваюцца асыгнаваньні, якія адпускае пралетарская дзяржава на сацыяльна-культурнае будаўніцтва. У 1932 г. па адзінаму дзяржаўнаму бюджэту на сацыяльна-культурныя патрэбы і мерапрыемствы асыгнавана 1.626,7 мільёнаў рублёў, альбо на 23,6 проц. больш, чым у мінулым годзе. Калі-ж прыняць пад увагу сродкі, якія затрачваюцца на гэтую мэту мясцовымі бюджэтамі, сацстрахам і інш., дык гэтыя затраты вызначаюцца лічбай звыш 9 мільярдаў руб.

Няспынны рост матар'яльнага палепшаньня дабрабыту працоўных гораду і вёскі стымуліруе ўзрастаньне культурных запатрабаваньняў і дае вялізарныя магчымасьці для ўцягненьня ў фінансаваньне сацыялістычнага і асабліва культурна-сацыяльнага будаўніцтва сродкаў саміх працоўных. Рэалізацыя ў мінулым годзе пастановы ўраду аб культзборы дала бліскучыя вынікі. Плян па культзбору быў значна перавыкананы.

Сёлета, для забесьпячэньня пляну культурна-сацыяльнага будаўніцтва гораду і вёскі, урадам зноў выдана пастанова аб правядзеньні культзбору. Гэтая важнейшая пастанова патрабуе максымальнай мабілізацыі партыйных, камсамольскіх сіл і ўсяе савецкай грамадзкасьці на пасьпяховую арганізацыю і правядзеньне культзбору. Зусім зразумела, што фінансавы апарат у правядзеньні гэтай кампаніі павінен даць чоткую і актыўную работу.

Асаблівая ўвага ў правядзеньні культзбору павінна быць зьвернута на работу ў вёсцы. Паводле пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР ад 21 студзеня 1932 году, да 1 красавіка культзбор у вёсцы павінен быць поўнасьцю скончаны. Да 15 лютага павінна быць сабрана ня менш як 50 проц. акладу, а кулацкія гаспадаркі, якія ў мінулым годзе абкладаліся сельскагаспадарчым падаткам у індывідуальным парадку—павінны поўнасьцю выплаціць налічэньні па культзбору да 10 лютага.

Усё гэта абавязвае партыйныя, камсамольскія савецкія і грамадзкія арганізацыі на вёсцы разгарнуць вакол культзбору шырокую палітычна-масавую растлумачальную работу сярод калгасьнікаў, бяднякоў і сераднякоў аднаасобнікаў і ўсіх працоўных.

На бліжэйшы час правядзеньне культзбору павінна стаць у цэнтры ўсяе фінансавай работы на вёсцы. Самацёк, апартуністычныя адносіны да кулака ў спаганьньні з яго налічаных па культзбору сум, бюракратызм і непаваротлівасьць у рабоце фінансавага апарату — павінна атрымаць рашучы бальшавіцкі адпор.

Кулак, які ліквідуецца на базе суцэльнай калектывізацыі, усімі сіламі будзе імкнуцца к таму, каб сарваць пасьпяховае правядзеньне гэтай важнейшай кампаніі.

Таму асаблівую ўвагу патрэбна зьвярнуць на арганізацыю вакол культзбору належнай палітычна-масавай работы. Ня гледзячы на тое, што культзбор зьяўляецца абавязковым плацяжом, трэба добра растлумачыць калгасьнікам і ўсім працоўным вёскі палітычную важнасьць і неабходнасьць гэтага мерапрыемства. Вялікую ролю ў гэтай справе павінен адыграць мясцовы друк—раённыя газэты, шматтыражкі, насьценгазэты.

Пасьпяховасьць у сваячасовым і поўным выкананьні плянаў культзбору абумоўліваецца шырокай мабілізацыяй на правядзеньне гэтай работы партыйных і камсамольскіх сіл і ўсяго вясковага актыву, шырокім ужываньнем сацыялістычных мэтадаў працы—сацспаборніцтва і ўдарніцтва, арганізацыі грамадзкага буксіру і г. д.

Узорныя прыклады барацьбы за выкананьне фінансавых плянаў паказвае Сіроцінскі раён, які з кварталу ў квартал перавыконвае фінансавыя заданьні. У Сіроцінскім раёне на правядзеньне культзбору мабілізавана ўвага ўсяе савецкай грамадзкасьці. Яшчэ да 30 студзеня раёнам была поўнасьцю і датэрмінова закончана работа па налічэньні культзбору і прыступлена да ўручэньня паведамленьняў платнікам.

Актывісты-ўдарнікі фінансавага фронту Сіроціншчыны адразу-ж пасьля апублікаваньня ў друку пастановы ўраду аб правядзеньні культзбору, усю сваю энэргію і сілу пераключылі на правядзеньне гэтай кампаніі, шырока разгарнулі сярод працоўнага насельніцтва адпаведную масавую работу па растлумачэньню сутнасьці і неабходнасьці гэтага важнейшага мерапрыемства ўраду.

У Сіроцінскім раёне павялі работу за датэрміновае выкананьне плянаў па культзбору.

Тэмпы сіроцінскіх ударнікаў фінансавага фронту павінны быць падхоплены ўсімі раёнамі БССР.

**М. Н—скі.**

Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

3
1932
ЛЮТЫ

ОРГАН НАРКАМЗЕМУ І КАЛГАСЦЭНТРУ БССР

ЗЬМЕСТ





XIV зьезд КП(б)Б



## САЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ РЭКАНСТРУКЦЫЯ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ БССР

**З дакладу сакратара ЦК КП(б)Б т. ШАРАНГОВІЧА.**

### Нашы дасягненьні за час з XIII зьезду КП(б)Б

На падставе ажыцьцяўленьня ленінскай палітыкі, умацаваньня пралетарскага кіраўніцтва працэсамі рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, уся КП(б)Б і яе Цэнтральны Камітэт актыўна займаліся пытаньнямі сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі.

У трэцім рашаючым годзе пяцігодкі мы дабіліся вялізарных сацыяльна-эканамічных зрухаў, з якімі КП(б)Б прыйшла да свайго XIV зьезду. Гэтыя зрухі ў першую чаргу выяўляюцца ў магутным росьце калектывізацыі, у рашучым павароце бядняцка-серадняцкіх мас на шлях сацыялізму.

Калі на 1 лістапада 1928 г. было толькі 0,7 проц. калектывізацыі, на 1 чэрвеня 1930 году — 11,1 проц., на 1 студзеня 1931 г. — 15 проц., то на 1 ліпеня 1931 г. мы мелі ўжо 40 проц. і на 20 сьнежня — 50,3 проц. Рад раёнаў, як Лепельскі, Койданаўскі, Талачынскі, Чэрвеньскі, Сененскі, Бягомльскі, Касьцюковіцкі, Чэрыкаўскі і інш., у асноўным завяршылі суцэльную калектывізацыю.

Посьпехаў у калектывізацыі мы дабіліся ў рашучай барацьбе з правым апартунізмам, з самацёчнымі настроямі ў калгасным будаўніцтве, з „левымі“ загібамі, якія былі даволі пашыраны ў некаторых раёнах. Гэтых посьпехаў мы дабіліся з улікам усіх абставін і ўмоў нашай работы ў нацыянальнай рэспубліцы — Беларусі.

За час з XIII зьезду мы маем значнае павышэньне росту і ролі саўгасаў у сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі. Калі пасеўная плошча саўгасаў у 1928 годзе складала 41.600 *га*, то ў 1931 г. было 115.000, а ў 1932 г. намечана 250.000 *га*. Плошча пад саўгасамі амаль пачынаючы з 1928 г. патроілася.

Капітальныя ўкладаньні ў сельскую гаспадарку расьлі наступным чынам: у 1930 г. — 42.123 тыс. руб., у 1931 г. — 77.844 тыс., на 1932 г. намечана 165 мільёнаў руб. Асабліва вялікае месца ў капіталаўкладаньнях вызначаецца росту машынізацыі сельскай гаспадаркі. Калі ў 1929 г. на гэту мэту скарыстана 5.400 тыс. руб., то ў 1930 г. — 7.726 тыс. руб., у 1931 г. — 17.072 тыс. руб. і на 1932 г. намечана 27.500 тыс. руб. Калі да XIII зьезду была адна машына-трактарная станцыя, то зараз налічваецца 1.900 трактароў. На 1932 год намечан ахоп усіх раёнаў машына-трактарнымі станцыямі.

Ахоп калгасамі 50 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, разьвіцьцё саўгасаў, рост капіталаўкладаньняў, механізацыя сельскай гаспадаркі — сьведчаць аб вялізарных дасягненьнях КП(б)Б у справе сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі.

Роля сацыялістычнага сэктару ў нашай сельскай гаспадарцы ўвесь час павялічваецца. У 1931 г. калгасы засеялі 47,3 проц. яравога кліну, з якога па ільне — 51,3 проц., гародніне — 64,1 проц., караньплодах — 66 проц., шматгадовых травах — 58,2 проц. і аднагадовых травах 62 проц.

Калгасы, пры дапамозе пралетарскай дзяржавы, ужо ў мінулым годзе паказалі прыклады пасьпяховай барацьбы за выкананьне чарговых гаспадарча-палітычных задач, паказалі вялізарную перавагу перад аднаасобным сэктарам. Калгасы значна лепш скарыстоўвалі

як людзкую, так і цягавую сілу. На калгасьніка, а таксама на калгаснага каня і машыну прыпадала значна большая доля апрацоўкі глебы, засеву, узьняцьця зябліва і г. д.

Пры яшчэ зусім нізкай прадукцыйнасьці нашага стада, у сацыялістычным сэктары ўсё-ж такі маем больш высокі процант удою. Па саўгасах удой малака ў год (у сярэднім на адну карову) складае 1.400 кілёграм, у калгасах—1.100, у індывідуальным сектары—920 кілёграм, а ў сярэднім па БССР—1.000 кгр.

На падставе тых мерапрыемстваў, якія праводзіла партыя ў галіне сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, удзельная вага БССР у агульнай пасеўнай плошчы СССР увесь час узрастае. Асабліва яркае адлюстраваньне мае павышэньне ўдзельнай вагі пасеўнай плошчы ільну, якая складала ў 1931 г.—10,2 проц., на 1932 г.—12,5 проц. Бульба—8,9 проц., у 1932 г.—10 проц. У валавым зборы па ільнавалакне ўдзельная вага ў 1930 г. складала 6,6 проц., на 1932 г.—12,6 проц. Па бульбе—10 проц., намячаецца—12,5 проц.

Такім чынам, і ў галіне сельскай гаспадаркі ёсьць значныя посьпехі, значнае павялічэньне пасеўнай плошчы, асабліва па тэхкультурах. Наогул удзельная вага БССР ва ўсёй агульнай посеўнай плошчы Саюзу ССР увесь час узрастае.

Пасьпяховае вырашэньне праблемы якасьці азначае далейшую перамогу ў рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, азначае сабой далейшы рост саўгаснага і калгаснага будаўніцтва.

Адсюль задача—саўгасы і МТС павінны яшчэ больш адыграць сапраўды вядучую ролю ва ўсёй рабоце па сац. рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, змагацца за ажыцьцяўленьне цэнтральнай задачы—арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў. Для таго, каб пасьпяхова справіцца з гэтым трэба поўнасьцю ажыцьцявіць **шэсьць умоў тав. Сталіна** ў рабоце МТС, саўгасаў і калгасаў.

## Рашуча змагацца з скажэньнямі лініі партыі ў калгасным будаўніцтве

Адзначаючы дасягненьні ў калгасным будаўніцтве, якія КП(б)Б мае за час з XIII да XIV зьезду, аднačасова трэба спыніцца на тых **памылках** ЦК КП(б)Б, якія былі дапушчаны ў пытаньнях калгаснага будаўніцтва, спыніцца на фактах „лявацкіх“ загібаў, якія мелі і нават маюць месца ў некаторых раёнах.

На ліпеньскім пленуме ЦК КП(б)Б была прынята ўстаноўка адносна тэмпаў калектывізацыі, якая арыентавала КП(б)Б, каб калектывізацыю ў асноўным скончыць да канца 1932 г., каб калектывізаваць да вясны 32 г. 75 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Пасьля пленуму была апублікавана пастанова ЦК УсеКП(б) ад 2 жніўня, якая вызначыла тэмпы і далейшыя задачы ў калгасным будаўніцтве. Пастанова ліпеньскага пленуму ЦК КП(б)Б разыходзілася з пастановай ЦК УсеКП(б) у сэнсе тэмпаў калектывізацыі ў сэнсе канцэнтрацыі ўвагі на асноўнай цэнтральнай задачы—арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў.

Пасьля пастановы ЦК УсеКП(б), бюро ЦК у рашэньні ад 13 верасьня не зьмяніла фармулёўкі ліпеньскага пленуму ЦК, зацьвердзіла ранейшыя тэрміны аб сканчэньні калектывізацыі ў асноўным да канца 1932 году, не падкрэсьліўшы задачу арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў, як цэнтральную для ўсіх раёнаў. Гэтым рашэньнем мы яшчэ больш паглыбілі тую памылку, якую дапусьцілі ў рэзалюцыі ліпеньскага пленуму ЦК КП(б)Б.

У адным з нумароў **„Праўды“**, у артыкуле „Не отставать и не забегать“ нашы пастановы зусім **правільна** былі раскрытыкаваны, ім была дана правільная палітычная кваліфікацыя. Лістападаўскі аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК КП(б) адмяніў ранейшыя ўстаноўкі, выправіў памылкі, цалкам кіруючыся пастановаю ЦК УсеКП(б) ад 2 жніўня аб сканчэньні ў асноўным калектывізацыі БССР у 1932-33 г. Пленум асобна паставіў пытаньне аб арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў, зрабіў гэта пытаньне цэнтральным для ўсёй КП(б)Б у справе далейшага калгаснага будаўніцтва.

З часу выпраўленьня памылак, ЦК КП(б)Б канцэнтруе ўсю ўвагу на арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў, ЦК правёў вялікую работу па выкрыцьці фактаў „лявацкай“ недаацэнкі арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў у радзе раёнаў.

## Рашаючым у калгасным будаўніцтве—павышэньне прадукцыйнасьці працы

Мы можам зараз канстатаваць, што **партаргані зацыя ў асноўным павярнулася тварам да арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў**. Наша задача заключаецца ў тым, каб і надалей, рашучэ выкрываючы і выпраўляючы скажэньні лініі партыі ў калгасным будаўніцтве, якія мелі і яшчэ маюць месца ў некаторых раёнах, больш рашуча ўзяцца за распрацоўку і правядзеньне ў жыцьцё раду практычных мерапрыемстваў, зьвязаных з арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньнем калгасу. **Менш дэкляратыўнасьці—больш канкрэтнай работы.** Калі мы будзем толькі дэкляраваць, а не працаваць, то гэта зьявіцца для нас найбольш небясьпечным, найбольш недапушчальным у правядзеньні ўсіх мерапрыемстваў па арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў.

Што зьяўляецца рашаючым у калгасным будаўніцтве на даным этапе? Асноўнае, як гаварыў і як учыў нас Ленін, гэта **павышэньне прадукцыйнасьці працы**, „гэта ў канчатковым выніку самае галоўнае для перамогі новага грамадзкага ладу“. Нам трэба лепш арганізаваць людзкія і іншыя сілы ў калгасах, каб выканаць задачы, зьвязаныя з павышэньнем прадукцыйнасьці працы ў сельскай гаспадарцы.

Узьняць прадукцыйнасьць працы можна толькі на аснове правільнай арганізацыі працы, укараненьня зьдзельшчыны, ліквідацыі абязьлічкі і ўраўнілаўкі. Паводле афіцыяльных вестак, на 20 сьнежня переведзена на зьдзельшчыну 86,8 проц. калгасаў, забясьпечана працоўнымі кніжкамі—86,7 проц., вядуць рэгулярны запіс працадзён—73,9 проц. калгасаў. Аднак, я павінен з усёй рашучасьцю сказаць, што ў значнай ступені ўсё гэта толькі фармальныя весткі, што на справе мы не ва ўсіх калгасах маем сапраўдную зьдзельшчыну.

## За перавыхаваньне калгасьнікаў—учарашніх беднякоў і серадмякоў-аднаасобнікаў

Задача па арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў зьяўляецца адначасова задачай **перавыхаваньня калгасьнікаў**—учарайшых беднякоў і серадмякоў-аднаасобнікаў, якія прынесьлі ў калгасы індывідуалістычную псыхалёгію, дробнаўласьніцкія настроі.

Тав. Сталін у сваёй прамове на канфэрэнцыі аграрнікаў-марксыстаў гаварыў наступнае:

„Ці ёсьць элемэнты клясавага змаганьня ў калгасах? Так ёсьць. Ня можа ня быць элемэнтаў клясавага змаганьня ў калгасах, калі там захоўваюцца яшчэ перажыткі індывідуалістычнай альбо нават кулацкай псыхалёгіі, калі там ёсьць яшчэ некаторая няроўнасьць. Ці можна сказаць, што клясавае змаганьне ў калгасах роўназначна клясаваму змаганьню па-за калгасамі? Не, нельга. У гэтым і заключаецца памылка нашых „левых" фразёраў, што яны ня бачаць гэтай розьніцы. Што значыць клясавае змаганьне па-за калгасамі да стварэньня калгасаў? Гэта значыць змаганьне з кулаком, які ўладае прыладамі і сродкамі вытворчасьці і закабаляе сабе беднату пры дапамозе гэтых прылад і сродкаў вытворчасьці. Гэта змаганьне прадстаўляе змаганьне не на жыцьцё, а на сьмерць. А што значыць клясавае змаганьне на базе калгасаў? Гэта значыць раней за ўсё, што кулак разьбіт і пазбаўлен прылад і сродкаў вытворчасьці. Гэта значыць, па-першае, што бедныкі і серадняки аб'яднаны ў калгасы на базе абагуленьня асноўных прылад і сродкаў вытворчасьці. Гэта значыць, нарэшце, што справа ідзе аб змаганьні паміж членамі калгасаў, з якіх адны яшчэ ня вызваліліся ад індывідуалістычных і кулацкіх перажыткаў і спрабуюць выкарыстаць некаторую няроўнасьць у калгасах на сваю карысьць, а другія хочуць выгнаць з калгасаў гэтыя перажыткі і гэтую няроўнасьць. Ці ня ясна, што толькі сьляпыя ня могуць бачыць розьніцы паміж клясавым змаганьнем на базе калгасаў і паміж клясавым змаганьнем па-за калгасамі".

Вось чаму вучыць тав. **Сталін**, калі мы падыходзім да пытаньня, зьвязанага з перавыхаваньнем калгасьнікаў, з арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньнем калгасаў.

Выкарчоўваючы дробнаўласьніцкую псыхалёгію, трэба больш рашуча змагацца з кулацкімі элемэнтамі, якія, пралезшы ў калгасы, на кожным кроку імкнуцца разбураць з сярэдзіны калгасную вытворчасьць.

## Арганізацыйна-гаспадарчаму замацаваньню калгасаў—асноўную ўвагу

Наша далейшая задача ў калгасным будаўніцтве заключаецца ў тым, каб **канцэнтраваць асноўную ўвагу на арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў. Толькі на аснове арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў КП(б)Б будзе дабівацца ажыцьцяўленьня тэмнаў калектывізацыі, якія вызначаны ў пастанове ЦК УсеКП(б) ад 2 жніўня.** Пры разглядзе кантрольных лічбаў на 1932 г. мы намецілі калектывізаваць да канца 1932 году 65 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак Савецкай Беларусі. Мы зможам выканаць гэту задачу толькі тады, калі з посьпехам правядзем трэцюю бальшавіцкую сяўбу, калі будзем канцэнтраваць увагу на арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў: увядзеньне зьдзельшчыны, ліквідацыі абязьлічкі і ўраўнілаўкі, пастаноўка справы ўліку, падрыхтоўка масавых кадраў і г. д.

У саўгасным будаўніцтве наша лінія заключаецца ў тым, каб, пашыраючы саўгаснае будаўніцтва, асабліваe значэньне надаць пастаноўцы якасьці працы, дамагаючыся больш рэзкай спэцыялізацыі, павышэньня таварнасьці, **сваячасовай здачы ўсёй таварнай прадукцыі дзяржаве.** Больш рашуча змагацца з кулацкімі рвацкімі тэндэнцыямі ў паасобных калгасах. Умацоўваць і паляпшаць мэханізацыю сельскагаспадарчых работ, асабліва па працаёмкіх культурах: лён, каноплі, бульба Мэханізаваць усе працэсы, зьвязаныя з разьвіцьцём жывёлагадоўлі.

## Больш увагі каню. Ліквідаваць прарывы ў працы МТС і СТКФ

Ня гледзячы на значную мэханізацыю, у нас яшчэ **рашаючай сілай у сельскай гаспадарцы застаецца конская цягавая сіла.** Павесьці рашучую барацьбу з разбазарваньнем, забоем коняй, прыцягваць да адказнасьці тых, хто пад уплывам кулацкай агітацыі імкнецца здаць каня ў архіў.

Савецкая Беларусь зьяўляецца краінай жывёлагадоўлі і тэхнічных культур. Адозва ЦК УсеКП(б) і СНК СССР ад 30 чэрвеня дае адпаведную ўстаноўку ў вырашэньні жывёлагадоўчай праблемы. Выконваючы дырэктыв XIII зьезду КП(б)Б, мы шмат увагі аддавалі разьвіцьцю жывёлагадоўлі. Удзельная вага БССР, як жывёлагадоўчага раёну, у далейшым усё больш і больш будзе павышацца. Мы цяпер ужо па сьвінагадоўлі маем 12 проц. усяго сьвінога пагалоўя ў Саюзе.

Асноўную ўвагу ў пытаньнях далейшага разьвіцця сацыялістычнай жывёлагадоўлі павінны займаць саўгасы і калгасы—наш сацыялістычны сэктар.

Ужо зараз ён займае галоўнае месца. Возьмем саўгасы. Калі ўдзельная вага буйнай рагатай жывёлы ў 1930 годзе складала 2,2 проц., дык у 1932 годзе—5,9 проц. У калгасах адпаведна—9,3 проц., будзе складаць—61,2 проц. Сьвіньні па саўгасах складалі 1 проц. у 1930 годзе, 7,4 проц.—у 1931 годзе і 11,9 проц.—у 1932 годзе.

Па калгаснай сыстэме — 4 проц. у 1930 годзе, 49,6 проц.—у 1931 годзе і 61,7 проц. у 1932 годзе.

Аднак, ня гледзячы на тое, што сацыялістычны сэктар ужо займае і будзе займаць вядучае месца ў разьвіцьці сацыялістычнай жывёлагадоўлі, мы маем вялікія прарывы ў выкананьні пляну па ўкамплектаваньні стада, як па трэсьце, так і па калгасных таварных фэрмах. Напрыклад, зацьверджаны плян для Белканторы трэсту „Сьвінавод" вызначае па агульным пагалоўі сьвіней 175.000 штук і сьвінаматак—50.000 на 1931 год. Плян укамплектаваньня выканан: па агульным пагалоўі—на 42 проц., па матках—на 56,5 проц., па пляне Сьвінавода, які менш нашага пляну, выкананьне на 77 проц.

Па калгасных таварных фэрмах было запраектавана па агульным пагалоўі 300.000, па матачным—100.000 і па таварнай прадукцыі—37.800. На 10 лістапада арганізавана 1.600 фэрм. Плян укамплектаваньня па агульным пагалоўі выканан на 44 проц., па сьвінаматках—на 73 проц. і па здачы таварнай прадукцыі—на 28 проц.

Мы павінны рашучым чынам правесьці барацьбу са стратамі, рашуча правесьці барацьбу з разбазарваньнем жывёлы, асабліва маладняка (маладняк будзе адыгрываць рашаючую ролю ў выкананьні плянаў укамплектаваньня стада, у папаўненьні агульнага пагалоўя, якое вызначана кантрольнымі лічбамі на 1932 г.); падвесьці кармовую базу пад жывёлагадоўлю, укараніць заатэхніку, узмацніць кадрамі ўсе галіны сельскай гаспадаркі і арганізацыі, якія зьвязаны з вырашэньнем жывёлагадоўчай праблемы. Неабходна значна ўзьняць племянную справу, узьняць прадукцыйнасьць нашай жывёлы. Усяго гэтага з посьпехам можна дасягнуць, калі мы поўнасьцю ажыцьцявім на практыцы 6 умоў тав. Сталіна.

Мы павінны зьвярнуць асабліва сур'ёзную ўвагу на выкананьне саўгасамі і калгасамі абавязкаў па здачы таварнай прадукцыі дзяржаве. Мы маем факты распаўсюджаньня ў радзе саўгасаў і калгасаў месьніцкіх спажывецкіх настрояў такога парадку: „Перш за ўсё сабе, а потым дзяржаве“. Мы маем факты разбазарваньня жывёлы, часты забой пад выглядам „чумы“. Усё гэта і ёсьць злачынныя адносіны да здачы таварнай прадукцыі дзяржаве.

### За далейшае разьвіцьцё тэхкультур

Другое пытаньне, зьвязанае з далейшым напрамкам разьвіцьця ўсёй нашай сельскай гаспадаркі, гэта—разьвіцьцё тэхнічных культур. Я ўжо прывёў адпаведныя факты ўсё ўзрастаючай ролі тэхнічных культур у пасевах. Мы мелі ў 1931 годзе 240.000 гэкт. пасеву ільну і 31.000 гэкт. канапель. На 1932 год вызначана 320.000 гэкт. Наш напрамак, наша лінія і на далейшы час характарызуюцца яшчэ больш моцным разьвіцьцём тэхнічных культур.

Асабліва вялікае значэньне набывае ўзьняцьцё ўраджайнасьці ільну і канапель. Тут мы адсталі ад заходня-эўрапэйскіх краін. У бліжэйшыя 1932 і 33 гады мы павінны ажыцьцявіць рад такіх мерапрыемстваў, каб у 2—3 разы павялічыць ураджайнасьць палепшыць якасьць прадукцыі нашых тэхнічных культур.

Канкрэтныя мерапрыемствы па разьвіцьці тэхкультур, побач з вырашэньнем праблемы жывёлагадоўлі, павінны заняць важнейшае месца пры складаньні пляну другой пяцігодкі.

### Змагацца за ўздым ураджайнасьці

Адно з пытаньняў, якое набывае выключнае значэньне ў галіне разьвіцьця сельскай гаспадаркі, гэта — мэліярацыя. Забалочанай плошчы ў нас 2160 тыс. гэкт. Асаблівае забалочаньне мы маем на Прыпяці, Бярэзіне, Дняпры, Нёмане і г. д. Вопыт ужо даказаў, што разьвіцьцё ў нас мэліярацыі— праблема вялікага гаспадарчага-палітычнага значэньня. Тое, што мы ўжо маем у разгортваньні лугавой гаспадаркі і пасеўных траў, паказвае вялікую ўраджайнасьць, пераважнасьць балотных масываў над агульнымі масывамі. Ужо даказана, што пасеў тэхнічных культур на балотных масывах значна перавышае ўраджайнасьць звычайных масываў. Перад намі, такім чынам, стаіць задача разгортваньня мэліярацыі, як аднэй з вялізарных гаспадарча-палітычных праблем у разьвіцьці і рэканструкцыі сельскай гаспадаркі Беларусі.

Гаворачы аб рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, мы адначасова павінны ў далейшых дырэктывах па пытаньні ўзьняцьця ўраджайнасьці і ўкараненьня агратэхнікі даць наступныя паказаньні: па-першае, узьняць на значную палітычную вышыню гэта пытаньне сярод усёй партыйнай арганізацыі, мабілізаваць яе на ажыцьцяўленьне гэтай задачы і правесьці рад практычных мерапрыемстваў, зьвязаных са скліканьнем зьезду з агульнай пастаноўкай агітацыі, прапаганды, шырокай масава-растлумачальнай работы.

У справе правядзеньня ўсіх мерапрыемстваў па рэканструкцыі сельскай гаспадаркі мы ні ў якім разе не павінны недаацэньваць аднаасобны сэктар, памятаючы, што ён яшчэ займе значнае месца. Мы павінны весьці рашучую барацьбу з ігнараваньнем аднаасобнага сэктару, мы павінны мабілізаваць бедняка і серадняка—аднаасобніка на выкананьне як агульных задач, так і ў сэнсе далейшага ўзьняцьця таварнасьці сельскай гаспадаркі.

Усе пытаньні, зьвязаныя з рэканструкцыяй сельскай гаспадаркі, з узьняцьцем ураджайнасьці і правядзеньнем іншых мерапрыемстваў, адначасова маюць дачыненьне і да бальшавіцкага правядзеньня надыходзячай веснавой пасеўнай кампаніі.

Трэба, каб мы па-сапраўднаму скарысталі ўсе магчымасьці, каб выканаць тыя намячэньні плянаў, якія ёсьць у нас па пытаньні спэцыялізацыі нашай сельскай гаспадаркі.

Гаворачы аб спэцыялізацыі нашай сельскай гаспадаркі і аб далейшым падзеле БССР прыблізна на чатыры групы спэцыялізаваных раёнаў, мы павінны яшчэ высунуць пытаньне адносна спалучэньня, увязкі, скажам, каровы з ільном і наадварот. Наогул, трэба паставіць пытаньне аб магчымасьці спалучэньня пасобных відаў сельскай гаспадаркі пры разьвіцьці ў тым ці іншым напрамку таго ці іншага раёну.

# ЗА МОЦНУЮ КАЛГАСНУЮ ФЭРМУ!

**„Праблема разьвіцьця сацыялістычнай жывёлагадоўлі і асабліва сьвінагадоўлі зьяўляецца актуальнейшай для БССР, як аднаго з важнейшых жывёлагадоўчых раёнаў Савецкага Саюза“.**

*(З пастановы пленума ЦК і ЦКК КП(б)Б).*

## ПОЎНАЕ ЗАХАВАНЬНЕ МАЛАДНЯКА—ВАЖНЕЙШАЯ ЗАДАЧА

Пры гадоўлі маладняка неабходна памятаць, што дрэнны догляд за цялятамі ня можа даць добрай каровы, або каштоўнага вытворніка. Таму, каб мець добрую жывёлу ва ўсіх адносінах, трэба яе правільна даглядаць, карміць, утрымоўваць. Дробная сялянская гаспадарка не магла і ня можа правільна арганізаваць разьвіцьцё жывёлагадоўлі наогул і забясьпечыць правільную гадоўлю маладняка. Яна не магла і ня можа ўкласьці тых сродкаў, якіх патрабуе правільнае гадаваньне маладняка. Дасягненьні навукі ў галіне найбольш правільнай і эканомнай арганізацыі і тэхнікі гэтай справы, дробнай аднаасобнай гаспадарцы таксама не даступны. Беднякі серадзнякі-аднаасобнікі ня могуць пабудаваць, напрыклад, цялятніка, згодна запатрабаваньняў навукі. Гэта немагчымая рэч, некарысная справа ў дробнай аднаасобнай гаспадарцы. Таму і па цэламу шэрагу іншых прычын высокі адыход, масавая гібель маладняка зьяўляецца натуральнымі, былі няўхільнымі спадарожнікамі для гэтага тыпу гаспадаркі.

Правільнае гадаваньне цяля патрабуе абавязкова цёплага, сьветлага, сухога памяшканьня—цялятніка.

Зусім іншая справа буйная сацыялістычная гаспадарка—саўгасы, калгасы, калгасныя таварныя фэрмы, якія маюць у наяўнасьці ўсе неабходныя ўмовы для разгортваньня арганізаванай, плянавай, узброенай ўсімі дасягненьнямі навукі і тэхнікі, сацыялістычнай жывёлагадоўлі наогул, і правільнага гадаваньня маладняка ў прыватнасьці.

Мы маем ужо шматлікія прыклады саўгасаў і калгасных таварных фэрм, у якіх на падставе правільнай арганізацыі працы, ліквідацыі абязьлічкі і ўнядрэньня зьдзельшчыны, шырокага ўжываньня мэтадаў сацспаборніцтва і ўдарніцтва, адным словам кажучы, у якіх на падставе сапраўднай бальшавіцкай арганізацыі і догляду за жывёлай дасягнуты значныя посьпехі ў справе гадаваньня маладняка.

Прывядзем першых два-тры прыклады з маючыхся пад рукамі.

1) Батрачка-калгасьніца ўдарніца, сябр ЦВК БССР Ігнатовіч Прося ў калгаснай фэрме „Новае жыцьцё“, Старобінскага раёну, уважлівым доглядам за маладняком зьнішчыла адыход—падзеж парасят з 40 проц. да 13 проц.

2) Перадавая ўдарніца Насьця Плюшчай у калгасе імя Дзяржынскага, Брагінскага раёну, у выніку асабліва ўважлівага догляду за парасятамі дабілася захаваньня іх на 85 проц., у той час, калі ў навакольных вёсках была павальная хвароба сьвіней.

3) Калгас Леніна, Слуцкага раёну, у выніку забесьпячэньня ўважлівага догляду за маладняком мае выгадаваных цялят на 90 проц. ад ліку народжаных.

Прыкладаў узорнага догляду за маладняком у сацыялістычнай гаспадарцы, заслугоўваючых пашырэньня і прэміраваньня—шмат.

Таму наша задача множыць такія прыклады, распаўсюджваць, рабіць іх дасягненьнем усіх саўгасаў і калгасаў.

**Барацьба за маладняк**—зьяўляецца адной з важнейшых і адказьнейшых задач у барацьбе за сацыялістычную жывёлагадоўлю. Наш абавязак забясьпечыць вырашэньне гэтай задачы самымі хутчэйшымі тэмпамі і ў самы хутчэйшы час.

### Як правільна даглядаць за цялятамі

Пасьля нараджэньня цяляці даюць яго карове аблізаць, а потым яно адносіцца ў цялятнік. Пры аблізаваньні каровай цяляці нельга пасыпаць ні сольлю, ні вотрубямі, што зьяўляецца шкодным для цяляці. У крайнім выпадку цялё неабходна насуха выцерці чыстым рушніком, або мяккімі жгутамі саломы, ачысьціць нос і рот ад сьлізі, каб цяля магло вольна дыхаць. Памяшканьне для цялят павінна быць цёплым, з чыстай пасьцілкай і знаходзіцца тут-жа пры скотным двары, а лепш пры спэцыяльна прыстасаваным радзільным памяшканьні для кароў. У гэтых выпадках, калі цяля прыходзіцца пераносіць у іншае ці менш асобнае памяшканьне ад таго памяшканьня, у якім яно нарадзілася (што вельмі нежадана і шкодна для цяляці), дык гэта неабходна рабіць з вялікімі перасьцярогамі, каб не застудзіць цяля. Цяля пажадана ўзважыць, як яно нарадзілася,



Даільшчыца Канаплёва Ганна. Калгас „Расьсьвет Пераможца“.

а потым узважваць праз кожную дэкаду, што дасьць магчымасьць назіраць за ростам і разьвіцьцём цяляці.

Звычайна некаторыя раюць першы раз паіць цяля пасьля яго нараджэньня не раней, як праз 2—3 і нават 5 гадзін. Але даныя вопыту Качэржынскага саўгасу паказваюць, што гэта зьяўляецца шкодным для маладняка. Калі цяляці ня даць малодзіва сваёй маткі, безадкладна пасьля нараджэньня, то за час 2—5 гадзіннага перапынку да часу паеньня, сьвежае паветра замацуе ў кішэчніку цяляці першародны кал, які потым ужо цяжка бывае адразу растварыць малодзівам. У выніку гэтага ў цяляці адсутнічае апэтыт, позывы да спаражненьня; прыліпшы першародны кал да кішэчніка выходзіць вельмі марудна, што адбіваецца на здароўі, на росьце цяляці, садзейнічае паносу, запаленьню кішэчніка, у выніку чаго вельмі часта цяля гіне. Таму ў першы раз цяля неабходна **напаіць цёплым сьвежа надоеным малодзівам сваёй маткі зараз жа пасьля таго, як толькі ён будзе аблізаны сваёй маткай.**

У тых выпадках, калі паасобная карова адмаўляецца ад аблізваньня цяляці, што больш часта бывае з першацёламі, усяроўна цяля трэба напаіць зараз-жа пасьля таго, як яно будзе насуха абцёрта чыстым рушнікам, або саломай.

Першыя 6—8 дзён цяля павінна паіцца малодзівам толькі сваёй маткі. Малодзіва каровы мае ў сабе ўсе тыя спажыўныя матэрыі, якія патрэбны цяляці ў першыя дні яго жыцьця. Яно дзейнічае як лёгкае слабіцельнае, дапамагае ачысьціцца кішэчніку цяляці ад першароднага калу.

Нельга паіць цяля халодным малаком, бо гэта пагражае безадкладным захворваньнем яго аднэй з самых распаўсюджаных і апасьлівых хвароб — белым паносам. Надоенае малако неабходна зараз-жа аддаць цяляці і не дапушчаць яго астуджаньня. У крайніх выпадках неабходна падаграваць малако (што вельмі нежадана) да тэмпэратуры паранага малака—38—39 градусаў па Цэльсію. Падаграваць малако і асабліва малодзіва трэба ў гарачай вадзе, і ні ў якім разе на пліце. Таксама нельга паіць цяля забруджаным малаком. У брудным малацэ маецца шмат бактэрый, якія пападаюць у страўнік цяляці і выклікаюць яго захворваньне. Таму неабходна перад даеньнем вымя каровы добра вымыць цёплай вадой і выцерці чыстым рушнікам. Таксама і рукі даільшчыцы павінны быць вымыты з мылам, або шчолакам, а пазногці зрэзаны, каб імі не параніць вымя каровы і рот цяляці пры паеньні яго з пальца першыя 2—3 дні, а таксама, каб удаліць шмат бруду і бактэрый, знаходзячыхся пад пазногцямі.

Пасуду, з якой поіцца цяляты, неабходна добра абмываць гарачай вадой, прапальваць у печы, і ні для якіх іншых патрэб не скарыстоўваць. Першы час неабходна строга сачыць за тым, каб цяля не перапойвалася, інакш страўнік яго ня зможа пераварыць лішняга малака, у выніку чаго адбываецца паслабленьне кішэчніка і цяля захворвае паносам. Адсюль неабходным правілам паеньня цяляці зьяўляецца — **лепш паіць часьцей і менш.** Першыя 3—4 дні трэба паіць ня менш 4—5 разоў у дзень і толькі на 5—6 дзень магчыма паступова пачынаць паіць яго 3—4, а потым і 3 разы ў дзень.

Паеньне цяляці павінна ўтварацца абавязкова ў адны і тыя-ж гадзіны кожны дзень. Распарадак паеньня цялят павінен адпавядаць распарадку ў часе даеньня кароў, інакш немагчыма паеньне цяляці парным малаком. Напрыклад, калі сёньня цяля паілася ў 6 гадзін раніцы, у адну гадзіну дня і ў 8 гадзін вечара, дык у наступныя дні неабходна захоўваць гэты-ж распарадак.

Усе зьмены ў харчаваньні цялят павінны вытварацца абавязкова паступова. Цельнае малако трэба паступова зьмяншаць і замяняць зьнятым малаком і моцнымі кармамі ў канцы трэцяй і ў пачатку чацьвертай дэкады пасьля нараджэньня, у залежнасьці ад шэрагу ўмоў. З гэтага-ж узросту магчыма дабаўляць у кармавую дачу і патроху мяккага, дробнага сена. Пераход ад стойлавага ўтрыманьня на пашавае таксама ўтвараць паступова, пачынаючы пасьбу з 2—3 гадзін у дзень і потым пераходзячы да пасьбы на працягу ўсяго дня. Незахаваньне паступовых пераходаў ад кармленьня аднымі кармамі да кармленьня іншымі кармамі вядзе да захварэньня цялят паносам.

У мэтах зьмяншэньня захворваньняў цялят паносам раіцца ўжываць намордьнікі. У першыя дэкады жыцьця цяляты звычайна аблізваюць перагародкі стойлаў цялятнікаў, а калі трымаюцца ў стойле па некалькі штук—ліжуць і ссуць адзін у другога вушы, пупавіну, шэрсьць і г. д. У выніку гэтага ў страўнік цяляці пападае пыл, бруд, што выклікае раздражненьне сьлізкай абалонкі яго страўных органаў і захворваньне. Ад усяго гэтага добра засьцерагае намордьнік. Яго магчыма зрабіць сваімі сіламі і сваімі сродкамі з лазовых дубцоў. Намордьнік трэба надзяваць з першага дня нараджэньня цяляці і ня зьнімаць яго на працягу 2—3 дэкад. Перад паеньнем цяляці намордьнік здымаюць, але зараз-жа надзяваюць зноў. Гэты спосаб аберагае цялят ад захворваньня паносам, аб чым сьведчыць цэлы шэраг вопытаў, утвораных у быўш. Яраслаўскай і Кастрамской губ.

Пасьля паеньня трэба насуха абціраць морду цяляці, каб на ёй не зьявілася хвароба ў выглядзе лішая, або экзэмы, з якой потым цяжка бывае змагацца. Такая хвароба ў цяляці называецца звычайнай „малочніцай“.

Калі ў статку маюцца каровы, хворыя на сухоты, трэба сачыць за тым каб малако цялятам давалася толькі ад здаровых кароў.



Кароўнік фэрмы калгасу „Пралетарый“, Вушацкага раёну.

Пачынаючы з чацьвертай дэкады неабходна ў пойле цялятам даваць сталовай солі, фосфарна-кіслай солі (добра перапаленых касьцей) і расьцертага мелу, пачынаючы з 2—3 грамаў у дзень і паступова павялічваючы з узростам цяляці, даводзячы дачу саляй к гадоваму ўзрост да 15—20 г (усіх соляй разам) у дзень. Гэта спрыяе лепшаму ўсваенню корму і разьвівае моцны касьцяк у цялят.

У цялятніку павінна быць цёпла

суха, сьветла і чыста; тэмпэратура павінна быць ня ніжэй 12—13 градусаў па Цэльсію, а таму ў ім патрэбна мець печ. Але падвышаць тэмпэратуру ў цялятніку вышэй 16—18 градусаў нельга, бо цяляты тады будуць вялымі. Цялятнік павінен мець шмат **сьвятла і сонца**. Бяз гэтага цяжка атрымліваць добрых здаровых цялят. Таму на кожныя 10—12 квадратовых мэтраў падлогі трэба даваць адзін квадратовы мэтр сьветлавой плошчы—вакон, але каб гэта ні ў якім разе не перашкаджала неабходнаму цяплу ў цялятніку, для чаго вокна павінны быць плотна прыгнаны да сьцен цялятніка і ня мець ніякіх адтулін. Цялятнік павінен мець добрую вэнтыляцыю праз спэцыяльна прыстасаваныя трубы; ня трэба праветрываць цялятнік праз адчыненыя дзьверы і г. д., таму што гэта дрэнна адбіваецца на здароўі цяляці, асабліва ў першыя 2—3 дэкады яго жыцьця. Гной у цялятніку трэба вычышчаць ня менш двух разоў у дзень, падсьцілку даваць абавязкова сухую, чыстую і ў дастатковай колькасьці. Лепш усяго трымаць цялят да 1,2—2 месяцаў у паасобных клетках і на прывязі, што асабліва неабходна, калі цяляты не забясьпечаны намордьнікамі.

Клеткі для цялят раіцца рабіць прыблізна наступнага разьмеру: даўжыня ад 1,55—1,75 мэтраў, шырыня ад 1,10 мэтраў да 1,5 мэтраў і вышыня ад 1,1 мэтр. да 1,3 мэтр. Перагародкі ў клетках неабходна рабіць так, каб іх магчыма было зьнімаць, на выпадак трыманьня цялят групамі ў адным пашыраным станку—клетцы. Кармушкі для цялят пажадана рабіць, так каб іх магчыма было зьнімаць на першыя 2—3 дэкады жыцьця, калі яны ім яшчэ не патрэбны.

Ачыстку кармушак ад рэштак мінулай дачы неабходна ўтвараць штодзенна. Цялятнік трэба 2—3 разы на працягу году бяліць растворам вапны, або мелу, а клеткі па меры іх забруджаньня, але не радзей аднаго разу ў месяц мыць цёплай вадой з карболкай, або крэалінам (пяць частак карболкі, або крэаліну на 100 частак вады). Цялят неабходна чысьціць ня менш аднаго разу ў дзень мяккай шчоткай або жгутамі з мяккай сухой чыстай саломы.

Правільнаму разьвіцьцю і добраму здароўю цялят дапамагаюць прагулкі на чыстым, сьвежым паветры, на сонцы, дзе яны могуць вольна рухацца і разьвіваць члены свайго цела (ногі, лёгкія і г. д.).

Пачынаць прагулкі магчыма ўжо ў дэкадным узросьце, выпушчаючы цялят на двор (ня выключаючы і зімовага часу) на 20—30 хвілін, паступова павялічваючы і даводзячы тэрмін прагулкі да 3—5 гадзін у дзень, у залежнасьці ад надвор'я. Выключэньнем могуць быць толькі дні дрэннага надвор'я (мароз, халодны вецер і моцны халодны дождж). Улетку ўвесь дзень з раніцы да позьняга вечара цяляты павінны праводзіць час на пашы паблізу цялятніка.

Пасьля 5-месячнага ўзросту і не пазьней 6-месячнага ўзросту бычкоў трэба абавязкова аддзяляць ад цялушак і ня трымаць разам у стойлах (клетках), а таксама і на пашы. Захварэўшых цялят неабходна безадкладна аддзяліць ад здаровых і зараз-жа выклікаць вэтурача. Тыя месцы, дзе знаходзіліся хворыя заразьлівай хваробай цяляты (белы панос і г. д.), павінны быць добра ачышчаны і прамыты пяціпроцантным растворам карболавага квасу, або крэаліну ў вадзе (пяць частак карболкі, або крэаліну на 100 частак вады).

Захаваньне паказаных прафіляктычных правілаў догляду за цялятамі магчыма ў кожным калгасе, сваімі сіламі і сродкамі, а гэта дасьць усё неабходнае для зьнішчэньня да мінімуму адыходу (падзяжу) цялят і правільнага іх гадаваньня нават пры распаўсюджаным ручным спосабе паеньня цялят.

Наадварот, незахаваньне паказаных правіл догляду, пры ручным спосабе паеньня цялят і асабліва ў першыя дзьве-тры дэкады іх жыцьця, якія зьяўляюцца самымі небясьпечнымі для іх (крытычны пэрыяд узросту), пагражае вялікім процантам адыходу (падзяжу) цялят ад аднэй з самых распаўсюджаных і заразьлівых хвароб—белага паносу.

Аграном—**В. Круглоў.**

# ПЛЕМЯНЫЯ ЗАПІСЫ—У САЎГАСЫ І КАЛГАСЫ

Павышэньне прадукцыйнасьці жывёлы—адна з галоўнейшых задач у разьвіцьці сацыялістычнай жывёлагадоўлі. Толькі пры высокай прадукцыйнасьці саўгаснай і калгаснай каровы, як станка жывёлагадоўчага цэху, найбольш рацыянальна скарыстоўваюцца памяшканьні, эканоміцца праца па догляду за жывёлай, больш высока аплачваюцца кармы, памяншаецца кошт шэрагу іншых выдаткаў.

Такім чынам мы бачым, што, павышаючы вытворчыя здольнасьці (якасьці) жывёлы, мы гэтым самым павялічваем ня толькі агульную колькасьць прадукцыі, але і маем пэўнае зьніжэньне сабекошту прадукцыі жывёлагадоўлі. Паляпшэньне харчаваньня, належнае ўтрыманьне і догляд за буйнай рагатай жывёлай—ёсьць частка працы па павышэньню прадукцыйнасьці жывёлагадоўлі. Але гэта толькі першая палова працы. Другая палова—гэта племянная (сэлекцыйная) праца, якая зьяўляецца адным з грунтоўных і важнейшых момантаў у павышэньні якасьці жывёлы.

У Галяндыі, напрыклад, у выніку племяной працы маюцца наступныя дасягненьні: процант тлустасьці ў масавай жывёлагадоўлі ў 1910 г. у сярэднім было 3,1 проц., а ў 1921—22 г.—3,26 проц. — Гэтае на першы погляд нязначнае (0,16 проц.) падвышэньне сярэдняга проценту тлустасьці пры пераліку яго на 483,5 мільёнаў *кг* малака, па якой колькасьці наглядалася павышэньне, дае выхад масла для Галяндыі на 841,290 *кг* у год.

Па павышэньню прадукцыйнасьці племяной жывёлы за 10 год у Галяндыі маюцца наступныя лічбы:

| Гады | Кілё малака | Процант | УВАГА |
|---|---|---|---|
| 1912 | 4247,5 | 3,20 | вылічана з 1000 галоў жывёлы |
| 1916 | 4413,1 | 3,38 | „ „ „ „ „ |
| 1921-22 | 4561,2 | 3,40 | „ „ 400 „ „ |

Прыведзеныя даныя яскрава сьведчаць аб тым, што ў Галяндыі, дзякуючы сур'ёзным адносінам да племяной справы, а таксама і дастатковаму харчаваньню жывёлы, ішло палепшаньне жывёлагадоўлі.

Для разгортваньня племяной справы ў нас, у СССР, мы маем вельмі моцную базу ў выглядзе буйных сацыялістычных гаспадарак — саўгасаў і калгасаў.

Цэнтральны камітэт КП(б)Б і Савет Народных

Камісарaў БССР, ацэньваючы вялікую ролю племяной працы ў палепшаньні жывёлагадоўлі, у пастанове сваёй аб разгортваньні сацыялістычнай жывёлагадоўлі прадугледжваюць арганізацыю раду племяных саўгасаў і калгасаў. У выніку сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі і вялікай ўвагі, якую аддае племяной справе партыя і ўрад, мы маем неабмежаваныя магчымасьці для разьвіцьця племяной работы.

Усесаюзная нарада па племяной справе пры Наркамземе СССР прыняла наступны плян: ва ўсіх саўгасах і калгасах выяўляюцца лепшыя каровы — рэкардысткі і лепшыя быкі (паляпшыцелі) і паступаюць у элітныя стады (стады, якія ўкамплектаваны самай лепшай часткай жывёлы) пры занальных заатэхнічных дасьледчых станцыях, дзе праз сэлекцыйную (племяную) працу ад кароў рэкардыстак і быкоў паляпшыцеляў атрымоўваецца патомства з перададзенымі ім замацаванымі і яшчэ больш пашыранымі карыснымі якасьці іх продкаў. Атрыманая такім чынам вельмі добрая племяная жывёла паступае ў племгасы, дзе яна множыцца і адтуль ідзе ў жывёлагадоўчыя саўгасы і калгасы.

Пасьпяховае разгортваньне племяной працы з уцягненьнем у гэтую справу ўсіх саўгасаў і калгасаў магчыма толькі праз шырокую арганізацыю працы па выяўленьні кароў рэкардыстак і быкоў паляпшыцеляў. А гэтае мерапрыемства цалкам залежыць ад вядзеньня дакладных племяных запісаў кожнай калектыўнай гаспадаркай. Без адпаведных запісаў немагчыма высьветліць, які бык зьяўляецца паляпшыцелем і якая карова дае больш малочнага тлушчу. Таксама бяз запісу магчыма і не заўважыць карысных для нас зьмен у жывёле, каб потым гэтыя карысныя зьявішчы скарыстаць для палепшаньня якасьці жывёлы шляхам выяўленьня экзэмпляраў, атрымаўшых карысную зьмену і адсылкі іх на дасьледчую станцыю для замацаваньня і далейшага пашырэньня карысных асаблівасьцяй. Бяз запісаў нельга правільна скласьці злучнага пляну і г. д.

Са ўсёй сур'ёзнасьцю трэба адзначыць, што без племяных запісаў немагчыма аніякая племяная праца. Тым мэтадам, калі жывёлу ацэньвалі толькі па надворнаму выгляду, ва ўмовах сацыялістычнай жывёлагадоўлі—павінен быць пакладзен канец.

Ня гледзячы на відавочную неабходнасьць вядзеньня племяных запісаў у нас у БССР да гэтага часу яшчэ нават у племгасах ня зьвернута належнай увагі на сталае і дакладнае выкананьне гэтай працы. Кіруючыя арганізацыі канчаткова не распрацавалі нават сталых форм племяных запісаў, у выніку чаго не заказаны кнігі і журналы для вядзеньня запісаў. Дзякуючы такому становішчу на мясцох у племгасах ня ведаюць, як і на чым весьці запісы.

Але вядзеньне племяных запісаў толькі ў племгаспадарках далёка не забясьпечвае племяной працы. Гэтая справа павінна ахапіць усю маючуюся жывёлу ва ўсіх нашых савецкіх і калектыўных гаспадарках.

Вядомая справа, што формы племяных запісаў для вытворчага тыпу гаспадарак, у параўнаньні з племгасамі, трэба максымальна спрасьціць і колькасьць іх зьменшыць. Але такія моманты, як прадукцыйнасьць, тлустасьць, колькасьць кормленых кармоў, прырост, захворваемасьць жывёлы, час злучак і ацёлаў—павінны мець пэўны адбітак у запісах кожнага саўгасу і калгасу.

Наркамзему БССР і дасьледчым установам сумесна з гаспадарчымі арганізацыямі неабходна ў тэрміновым парадку распрацаваць формы племяных запісаў. Вакол разгортваньня племяной працы трэба стварыць належную грамадзкую думку ў саўгасна-калгаснага актыву і дабіцца таго, каб племяныя запісы, як адзін з грунтоўных і неабходных momантаў племяной працы, увайшлі ў практыку саўгасна-калгаснай жывёлагадоўлі. Кожная гаспадарка павінна дасканала ведаць сваю жывёлу. А гэта магчыма ажыцьцявіць толькі шляхам вядзеньня адпаведных запісаў.

„1931 і 1932 гады павінны быць гадамі такога-ж рашучага пералому ў галіне разгортваньня жывёлагадоўлі, якімі былі 1929 і 1930 гады ў справе арганізацыі сацыялістычнай збожжавай гаспадаркі“ (з адозвы УсеКП(б) і СНК СССР).

За 1931 год. у галіне разгортваньня племяной працы па БССР вельмі мала зроблена. Але актыўны ўдзел усіх рабочых саўгасаў і ўсіх калгасьнікаў, пад кіраўніцтвам партыі, павінен забясьпечыць поўнае выкананьне пляну ня толькі па колькаснаму росту пагалоўя, але і па якаснаму палепшаньню сацыялістычнай жывёлагадоўлі. **К. Б. Віткоўскі.**

# Поўнасьцю ліквідаваць абязьлічку

*(Полацкі раён)*

Калгасам „Чырвоная паляна“ ўся ўвага зьвернута на арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасу і асабліва на будаўніцтва памяшканьняў для жывёлы і дамоў для калгасьнікаў.

За адзін толькі мінулы год пабудаваны: хлеў на 20 коняй, абора на 50 кароў, кузьня, 2 сілосныя ямы ёмкасьцю на 60 тон, жыльлёвыя дамы для калгасьнікаў і шмат іншых будынкаў.

Да 1931 году калгас ня меў пэўнай спэцыялізацыі. З вясны мінулага году калгасу надалі малочна-жывёлагадоўчы ўхіл.

Зараз у калгасе арганізавана малочна-таварная фэрма. На фэрме налічваецца 76 дойных кароў і 28 паўтарагадовых цялял. Заданьне па здачы малочна-таварнай прадукцыі за 1931 год выканана з перавыкананьнем. Замест патрэбных па пляну 4.000 *кг* малака-прадукцыі здана (прадана) дзяржаве 7.350 *кг.* Згодна пляну да пачатку 1933 году ў МТФ павінна быць пастаўлена яшчэ 100 прадукцыйных кароў. Гэта лічба не малая, але калгасьнікі заяўляюць, што яна будзе перавыканана.

Зараз калгас па ўдарнаму распачаў працу па сустрэчы 3-яй бальшавіцкай вясны. Ужо на сёнешні дзень закончана ачыстка насеньня, адрамантавана 11 парачных плугоў. З камплекты барон „Зіг-заг“, 10-дысковая сеялка і шмат іншага дробнага сельска-гаспадарчага інвэнтару.

У калгасе маецца 48 рабочых коняй, якія ўжо замацаваны за пэўнымі брыгадамі і калгасьнікамі. Аднак абязьлічка ліквідавана яшчэ ня поўнасьцю на астатніх работах (догляд за каровамі). Гэты недахоп трэба зараз-жа зьнішчыць.

**Мікола Яроменка.**

# Павысіць агульнае стада сьвіней на 35 проц. у 1932 годзе

## Пастанова Саўнаркому СССР аб разьвіцьці сьвінагадоўлі

У мэтах заахвочваньня разьвіцьця сьвінагадоўлі ў калгасах, саўгасах, спажывецкай каапэрацыі, у калгасьнікаў, а таксама ў аднаасобнікаў і маючы на ўвазе паляпшэньне снабжэньня мясам у найкарацейшы тэрмін, Савет Народных Камісараў Саюзу ССР пастанаўляе:

1. Паставіць задачай калгасаў, саўгасаў, калгасьнікаў і аднаасобнікаў, а таксама спажывецкай каапэрацыі павысіць агульнае стада сьвіней за 1932 г. ня менш, чым на 35 проц. з тым, каб стада сьвіней у таварных фэрмах Сьвінаводкалгасцэнтру давесьці да 4,5 млн. штук (павялічэньне ў два разы), у Сьвінаводаб'яднаньні—да 2,9 млн. шт. (павялічэньне ў тры разы), неаграмаджае стада калгасьнікаў і аднаасобнікаў—да 9 млн. шт. і стада спажывецкай каапэрацыі (адкорм сьвіней) да $1^1/_2$ млн. шт.

2. Абавязаць Сьвінаводкалгасцэнтр, Сьвінаводаб'яднаньне і спажывецкую каапэрацыю на аснове такога разьвіцьця сьвінагадоўлі забясьпечыць у 1932 годзе здачу (продаж) таварнага сьвінога мяса: а) па Сьвіноводкалгасцэнтру ў памеры 114.000 тон (2 млн. штук); б) па сьвінаводаб'яднаньні—100.000 тон (1,7 млн. штук); в) па спажывецкай каапэрацыі—40,8 тыс. тон (709 тыс. шт., ня лічачы, якія зьнімаюцца з адкорму).

Абавязаць калгасцэнтр і Цэнтрасаюз арганізаваць у кожным калгасе, які ня мае сьвінагадоўчых фэрм, і ў кожным сельспажыўтаварыстве калектыўную гадоўлю і калектыўную здачу (продаж) дзяржаве сьвіней у адкормленым выглядзе ў лік пляну загатовак.

3. Павысіць загатоўчыя цэны на сьвіней, давёўшы іх да 80 кап. за клгр. жывой вагі ў сярэднім.

4. Вызваліць у 1932 годзе ад якіх-бы там ні было падаткаў сьвінагадоўлю як у калгасах, так і ў аднаасобнікаў, а таксама вызваліць ад абкладаньня ўвесь кошт кармоў, якія калгасы перадаюць сьвінагадоўчым таварным фэрмам.

5. Абавязаць Наркамзем СССР адпусьціць Сьвінаводкалгасцэнтру з бюджэтных і крэдытных сродкаў Наркамзему СССР у 1932 годзе на патрэбы капітальнага будаўніцтва ў сьвінагадоўчых таварных фэрмах на заатэхнічныя мерапрыемствы, на падрыхтоўку кадраў і інш. 119 млн. руб.

6. Паставіць на 1932 год перад сьвінагадоўчымі саўгасамі і калгасамі ў якасьці асноўнай задачы стварэньня ўстойлівай кармовай базы сьвінагадоўлі, у прыватнасьці арганізацыю штучных выпасаў. З гэтай мэтай: а) абавязаць Калгасцэнтр СССР на працягу лютага 1932 году правесьці масавую праверку вызначэньня калгасамі для сваіх таварных фэрм, неабходных ім канцэнтраваных і інш. кармоў, дабіваючыся давядзеньня кармовых фондаў да разьмераў, якія адпавядаюць ухваленаму пляну разьвіцьця сьвінагадоўлі;

б) прапанаваць Наркамзему і Калгасцэнтру СССР у веснавую пасеўную кампанію 1932 году прыняць меры да таго, каб калгасы, якія маюць сьвінагадоўчыя таварныя фармы, замацавалі за гэтымі фэрмамі спэцыяльныя плошчы кармовых культур, якія поўнасьцю забясьпечылі-б сьвіное стада фэрм канцэнтраванымі і сакавітымі кармамі;

в) абавязаць усе сьвінагадоўчыя саўгасы, калгасы і СТФ, а таксама спажывецкую каапэрацыю ў максымальнай ступені мабілізаваць усе наяўныя ўнутрыгаспадарчыя кармовыя рэсурсы, скарыстаць для адкорму сьвіней адыходы харчаваньня, адыходы і адкіды бліжэйшых сельгаспрадпрыемстваў і ўвесьці самую жорсткую эканомію ў расходваньні кармоў;

г) прапанаваць Наркамзему і Калгасцэнтру СССР прэміяваць перадавыя калгасы і саўгасы, якія праявяць найбольшую ініцыятыву і прадпрыемнасьць у справе скарыстаньня дадатковых кармоў для сьвінагадоўлі і эканомнага расходваньня кармоў.

7. Прапанаваць Наркамснабу СССР адпусьціць у лік устаноўленага пляну з дзяржаўнага фонду для дапамогі сьвінагадоўчым таварным калгасным фэрмам 150.000 тон канцэнтраваных кармоў.

8. Запрапанаваць Наркамснабу СССР правесьці кантрактацыю сьвіней на асобна-ільготных умовах для калгасных таварных фэрм, калгасаў і калгасьнікаў з тым, што:

а) Таварнасьць для СТФ і пры калектыўным адкорме сьвіней у калгасах устанаўліваецца ў разьмеры 70 проц. з пакіданьнем у карыстаньне калгасьнікаў 30 проц. прадукцыі.

б) Кантрактацыі ў калгасьнікаў і аднаасобнікаў падлягаюць ня больш 1 парасяці ад апаросу, а рэшта прыплоду застаецца ў поўным распараджэньні гаспадаркі.

в) Выдача авансаў на кантрактаваную сьвіньню устанаўляецца ў разьмеры 20 рублёў, і на бэконную сьвіньню ў разьмеры 25 рублёў.

Даручыць Наркамснабу СССР у адпаведнасьці з плянам загатовак сьвіней забясьпечыць завоз дэфі-



цытных прамтавараў у асноўныя сьвінагадоўчыя раёны для продажу здатчыкам сьвіней.

9. Абавязаць сьвінагадоўчыя аб'яднаньні на працягу 1932—1933 г.г. поўнасьцю забясьпечыць сьвінагадоўчыя калгасныя фэрмы племянымі прадуктарамі для забесьпячэньня хуткасьпеласьці калгаснага сьвінога стада.

10. Скасаваць усе існуючыя абмежаваньні забоя сьвіней за выключэньнем матачнага стада і прадуктараў. Скасаваць у сельскіх мясцовасьцях абавязковасьць забою сьвіней для асабістага спажываньня на бойнях і боенскіх пунктах.

11. Запрапанаваць Дзяржбанку СССР фінансаваць куплю парасят сьвінафэрмамі і калгасамі ня супроць рахункаў, а па абавязацельствах калгасаў з наступным прадстаўленьнем рахункаў па закупцы парасят.

12. Прыраўнаць агранамічны, зоатэхнічны і вэтэрынарны пэрсанал сьвінагадоўчых саўгасаў у адносінах забесьпячэньня іх прамтаварамі да інжынэраў прамысловасьці.

Запрапанаваць Наркамснабу і Наркампрацы СССР цьвёрда забясьпечыць у першым квартале 1932 г. водпуск Сьвінааб'яднаньню для сьвінароў неабходнай колькасьці цёплай вопраткі, спэцвопраткі і абутку.

13. Адзначаючы высокі процант ялавасьці матачнага складу і падзяжу парасят у саўгасах і СТФ з прычыны, галоўным чынам, нездавальняючага праведзеньня злучной кампаніі і дрэннага ўтрыманьня, кармленьня догляду маладняка, абавязаць Наркамзем СССР па Сьвінаводаб'яднаньні, Сьвінаводкалгасцэнтру, Цэнтрасаюзу і ЦК саюзу работнікаў жывёлагадоўчых саўгасаў дабіцца ў 1933 годзе рашучага паляпшэньня ў справе гадоўлі і захаваньня маладняка. У гэтых мэтах устанавіць такую сыстэму аплаты працы сьвінароў і зоавэтпэрсаналу ў саўгасах і СТФ, пры якой разьмер аплаты працы залежаў-бы ад выхаду таварнай прадукцыі, зьмяншэньня ялавасьці і захаваньня маладняка.

Старшыня Савету Народных
Камісараў Саюзу ССР
**В. Молатаў (Скрабін).**

Нам. кіраўніка справамі Савету
Народных Камісараў Саюзу ССР
**І. Мірошнікаў.**

Масква, Крэмль, 29 студзеня.

# За таварнасьць сьвінагадоўча-таварна-калгасных фэрм

У БССР, як у адным з асноўных жывёлагадоўчых раёнаў СССР маюцца вялікія посьпехі ў справе разьвіцьця сацыялістычнай сьвінагадоўлі. На 1-е студзеня 1932 году арганізаваны 1.734 СТКФ, у якіх налічваецца сьвінога пагалоўя 131.067, з іх дарослых сьвінаматак—76.185 галоў. Гэтыя лічбы яскрава сьведчаць аб магчымасьці атрымаць значную колькасьць таварнай продукцыі з фэрм, аб рэальнасьці дадзеных плянавых заданьняў па здачы таварнай прадукцыі. Для гэтага патрэбна толькі адпаведная праца, як з боку раённых арганізацый, а галоўным чынам адпаведная праца калгасьнікаў і калгасьніц, працуючых на СТКФ. Барацьба за таварнасьць фэрм і ажыцьцяўленьне шэрагу практычных мерапрыемстваў: арганізацыя працы, злучкампанія, захаваньне маладняка, вырасьліваньне тоны апаросу, барацьба з спажывецкімі настроямі,—усё гэтае садзейнічае гаспадарчаму ўмацаваньню фэрм.

Мінулы 1931 год—пэрыяд арганізацыі сьвінагадоўча-таварных калгасных фарм, пэрыяд укамплектаваньня, фарміраваньня сьвінога стада фэрм. У 1931 годзе мы мелі значнае невыкананьне плянавага заданьня па здачы таварнай прадукцыі сьвіней. Галоўныя прычыны гэтага—правал злучной кампаніі мінулага году, вялікі адыход маладняка, а такама вялікая колькасьць падзяжу сьвіней ад розных эпізаотый: чумы, краснухі.



З прычыны адсутнасьці працы і кантролю некаторых раённых арганізацый за здачай таварнай прадукцыі, несваячасовае давядзеньне плянавых заданьняў да СТКФ, недастатковая барацьба з кулацкімі тэндэнцыямі—мелася па некаторых раёнах значнае разбазарваньне, спажываньне, таварных сьвіней у калгасных фэрмах.

Напрыклад, Церахоўскі раён—СТКФ здадзена (прададзена) дзяржаве 53 галавы, спажыта і разбазарана калгасьнікамі 247 галоў.

**Старобінскі раён**—здадзена дзяржаве 201 галава, спажыта і разбазарана 410.

**Крупскі раён**—здадзена дзяржаве 25 галоў, спажыта і разбазарана 151.

Між тым, як маюцца фэрмы, якія перавыканалі дадзеныя ім пляны па здачы сьвіней. Напрыклад, СТКФ калгасу „Пэўны шлях", Шклоўскага раёну, здала дзяржаве 133, плян—78 галоў. Калгасу „Новы Шлях", Менскага раёну—здаў 62 галавы, плян—36. Калгас „Шлях сацыялізму", Клімавіцкага раёну, здаў 48 галоў, плян—35.

Прыведзеныя факты тлумачэньня не патрабуюць і яскрава гавораць за сябе.

Партыя і ўрад вызначылі заданьне здаць у 1932 г. СТКФ 210.000 цэнтн. мяса-сала. Але-ж факты першага месяцу 1932 году сьведчаць аб поўнай бязьдзейнасьці некаторых раёнаў па выкананьні гэтага важнага гаспадарча-палітычнага мерапрыемства. Да гэтага часу па раду раёнаў не даведзены пляны здачы таварных сьвіней да паасобных фэрм. Прыклады: Чэрвеньскі, Талачынскі, Крычаўскі, Койданаўскі, і інш.

раёны, здача таварнай прадукцыі з фэрм у гэтых раёнах праходзіць самацёкам.

Па шэрагу раёнаў ня зьвернута ніякай увагі на правядзеньне злучнай кампаніі, маецца вялікі процант ялавых сьвінаматак. Прыклады: Талачынскі, Койданаўскі, Жлобінскі і інш. раёны, ялавасьць дасягае больш 50 проц. на асобным СТКФ.

Для ліквідаваньня ўсіх гэтых недахопаў і стварэньня ўмоў, спрыяючых таварнасьці фэрм, выкананьню і перавыкананьню дадзеных плянавых заданьняў, патрэбна прыняць рашучыя меры. У бліжэйшыя дні трэба зьнішчыць ялавасьць сьвінаматак, правёўшы пагалоўнае пакрыцьцё сьвінаматак вытворнікамі. Трэба памятаць, што рашаючае выкананьне плянаў здачы таварнай прадукцыі і далейшае пашырэньне стада сьвінагадоўчых таварна-калгасных фэрм залежыць ад пасьпяховага правядзеньня злучнай кампаніі. **„Злучная кампанія павінна быць такой-жа важнейшай і ўдарнай кампаніяй, як пасеўная і ўборачная“** (з пастановы пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б).

Другая асноўная задача працы СТКФ—гэта захаваньне і вырасьліваньне маладняка. Шкодніцкім выпадкам, якія мелі месцы ў мінулым годзе, калі па некаторых СТКФ адыход маладняка дасягаў 50—60 і больш проц., павінен быць пакладзен канец. Увесь маладняк павінен быць забясьпечан цёплымі, сухімі, чыстымі памяшканьнямі, подсьцілам, адпаведнай якасьцю—кармамі. Кармы павінны быць разнастайныя—багатыя бялковымі і мінэральнымі матэрыямі, павінны давацца 4—5 разоў у дзень у чыстых, вымытых кармушках. Абавязкова штодзенны выпуск сьвіней на вольнае паветра, і дача мінэральнай падкормкі (вугаль, дробленая цэгла, дзярновая зямля, крэйда).

**Арганізацыя працы**—падбор лепшых калгасьнікаў і калгасьніц для працы на фэрме па догляду за сьвіньнямі, ліквідацыя абязьлічкі па догляду за пэўнай групай сьвіней, перавод іх на зьдзельна-прэміяльную аплату працы за выпрацаваныя колькасныя і якасныя паказчыкі, ад ліку захаваных і вырашчаных галоў маладняка, ад прывесу рамонтных і адкормачных падсьвінкаў—павінна быць закончана ў бліжэйшыя дні.

Трэба забясьпечыць лепшыя ўмовы для калгасьнікаў і калгасьніц, працуючых на фэрме па догляду за сьвіньнямі. Правільным уходам, утрыманьнем і кармленьнем сьвіней, мы даб'емся скарачэньня адыходу маладняку да мінімума, і гэтым самым павысім таварнасьць фэрм.

**Наша задача—атрымаць тону апаросу ад аднэй маткі ў 6-месячным узросьце.** Амэрыканскую тэхніку на вырасьліваньню тоны апаросу ў 6-месячным узросьце патрэбна як мага хутчэй перанесьці ў практыку нашых сьвінагадоўчых таварных калгасных фэрм (СТКФ).

Кожны калгасьнік і калгасьніца павінны авалодаць тэхнікай сацыялістычнай сьвінагадоўлі. Выкананьне правіл зоовэтмінімуму, зоотэхнікі, дапаможа нам ажыцьцявіць пастаўленыя перад намі партыяй задачы.

Асноўнае пытаньне на СТКФ—гэта барацьба за кармы, за рацыянальнае і эканомнае скарыстаньне кармоў. Неабходна максымальна выкарыстоўваць мясцовыя кармавыя рэсурсы шляхам максымальнага скарыстаньня адкідаў грамадзкага харчаваньня, адкідаў тэхнічных прадпрыемстваў і інш. Зараз, калі мы праводзім падрыхтоўку да веснавой пасеўнай кампаніі, павінна быць зьвернута асаблівая ўвага на 100-проц. забесьпячэньне ўсімі відамі кармоў у сваім калгасе на 1932-33 г., гэта трэба прадугледзіць пасеўнымі плянамі.

З мэтай большай таварнасьці СТКФ трэба безадкладна паставіць на мясны-бэконны і паўсальны адкорм усіх кастрыраваных кабанчыкаў ад 4-месячнага ўзросту і выбракаваных, няпрыгодных для вытворчых мэт сьвінак. Адкорм сьвіней у маладым узросьце больш рацыянальны, бо маладая жывёла на адзінку прыросту патрабуе менш корму, чым жывёла старэйшага ўзросту.

Патрэбна весьці строгі вучот выхаду і кантроль за здачай таварнай прадукцыі на СТКФ. Кулацка-спажывецкія тэндэнцыі некаторай часткі калгасьнікаў павінны атрымаць рашучы адпор калгасных мас і ўсёй грамадзкасьці. **„Барацьба супроць спажывецкіх настрояў у калгасах, за сваячасовае і поўнае выкананьне імі сваіх абавязкаў перад дзяржавай—ёсьць барацьба за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгаснага будаўніцтва“** (З пастановы Пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б).

Толькі пры выкананьні вышэйпералічаных умоў, пры актыўным удзеле шырокіх калгасных мас, савецкай грамадзкасьці і ажыцьцяўленьня сацыялістычных мэтадаў працы—ударніцтва і сацспаборніцтва, на аснове рэалізацыі 6-ці ўмоў тав. Сталіна, бязьлітаснай барацьбой супроць правых і „левых“ апартуністаў — сьвінагадоўчыя таварна-калгасныя фэрмы БССР у чацьвертым заключным годзе пяцігодкі выканаюць свае абавязкі перад пралетарскай дзяржавай, выканаюць дадзеныя ім плянавыя заданьні па здачы таварнай прадукцыі.

Аграном-зоотэхнік
**М. Страмок.**



# Як праводзіцца завочная падрыхтоўка сельскагаспадарчых кадраў

*„У аснову работы над стварэньнем калгасных кадраў павінна быць пакладзена вылучэньне новых кадраў з масы саміх калгасьнікаў“.*

*(З рэзалюцыі XVI зьезду ЎсеКП[б]).*

Завочнае навучаньне будуецца на падставе арганічнай яго ўвязкі, па-першае, з вытворчасьцю, а па другое—завочным навучаньнем—у стацыянарных навучальных установах і на вытворчасьці.

Увесь працэс завочнага навучаньня складаецца з наступнага:

а) самастойнай індывідуальнай і ў брыгадзе прапрацоўкі завочнікам, рассылаемага яму навучальнай установай, вучэбнага матар'ялу (заданьняў); б) адказаў на кантрольныя запытаньні і складаньняў пісьмовых работ на зададзеную тэму па заданьню; в) праверкі адказаў і пісьмовых работ завочнікаў навучальнай установай і дача пісьмовых і інш. кансультацый, інструкцый, нарад і г. д.; г) вусных кансультацый завочнікаў непасрэдна на вытворчасьці; д) досьледаў і вырашэньняў завочнікамі вытворчых задач; е) вучэбных канфэрэнцый і зьездаў; ж) экскурсій; з) вытворчай практыкі; і) удзелу ў розных гаспадарча-палітычных кампаніях; к) лябараторна-сэмінарскіх сэсій.

Пры гэтым шырока ўжываецца радыё, кіно, перасовачныя выстаўкі.

### Вучэбная літаратура

Навучальная ўстанова, якая праводзіць завочнае навучаньне, пасылае кожнаму завочніку вучэбную літаратуру. Літаратура пасылаецца ня ўся адразу, а на працягу ўсяго часу навучаньня, згодна навучальнага пляну. Пасылаецца альбо падручнік па таму ці іншаму прадмету, разьдзелены на заданьні, або паасобныя заданьні. Кожнае заданьне разьлічваецца на прапрацоўку яго завочнікам у пэўны тэрмін, напрыклад, у дэкаду. Калі ўзяць арыентыровачна, што завочнік, знаходзячыся на вытворчасьці, будзе штодня аддаваць вучобе па 3 гадзіны, прапрацоўваючы ў гадзіну па 4 (у сярэднім) старонкі, дык у дэкаду (8 працадзён, альбо 24 працоўных гадзін) ён прапрацуе 72 старонкі. Гэта і будзе лічыцца заданьнем на дэкаду. Вядома, што заданьне ня можа быць аднолькавым па аб'ёму для розных груп завочнікаў; завочнік вышэйшай навучальнай установы (ВНУ) прапрацуе больш, чым завочнік тэхнікуму, завочнік трэцяга курсу,—больш чым завочнік першага курсу і г. д.

У кожным заданьні, якое пасылаецца завочніку, маецца: 1) тэма, якая разьбіваецца на падтэмы і параграфы; 2) мэта заданьня; 3) плян прапрацоўкі тэмы; 4) мэтадычныя паказаньні; 5) рабочы (вучэбны) матар'ял; 6) запытаньні для самаправеркі; 7) кантрольныя запытаньні; 8) тэма для пісьмовай працы; 9) сьпіс дадатковай літаратуры.

*Тэма*—гэта назва таго пытаньня, якое неабходна вывучыць, напрыклад, „Гадоўля парасят“, альбо „Хваробы лёну“ і г. д.

*Мэта заданьня*, або Інакш, мэтавая ўстаноўка—паказвае, у чым сутнасьць данай тэмы, навошта яе даводзіцца вывучаць, на што трэба зьвярнуць галоўную ўвагу пры яе вывучэньні.

*Плян прапрацоўкі* — паказвае пасьлядоўнасьць прапрацоўкі заданьня, напрыклад, прачытаць адпаведную літаратуру, потым рашыць такую то задачу, зрабіць такі та досьлед сабраць такі-та матар'ял і г. д.

*Мэтадычныя паказаньні*—вучаць як трэба прапрацоўваць заданьне, асабліва найбольш цяжкія яе часткі; як паставіць досьлед, як выканаць практычную работу, як дабытыя веды скарыстаць у вытворчасьці, у грамадзкай працы і г. д. На мэтадычныя паказаньні завочнік павінен зьвяртаць асаблівую ўвагу: яны дапамогуць прапрацаваць заданьне ў найкарацейшы тэрмін і з найлепшымі вынікамі.

*Рабочы матар'ял*—гэта зьмест самога заданьня, якое завочнік павінен прапрацаваць (вывучыць). Рабочы матар'ял складаецца з тэксту, малюнкаў, рысункаў, схэм, табліц, геаграфічных і іншых карт і г. д.

*Запытаньні для самаправеркі*—даюць завочніку мажлівасьць праверыць самаго сябе наколькі ён дасканала прапрацаваў заданьне. Запытаньні ахопліваюць усё асноўнае ў прапрацоўваемай тэме і, калі завочнік адказвае на ўсе запытаньні, гэта значыць, што ён прапрацаваў заданьне здавальняюча.

*Кантрольныя запытаньні*—гэта тыя запытаньні на якія завочнік дае пісьмовыя адказы ў завочную навучальную ўстанову. Кантрольных запытаньняў, як паасобнай часткі заданьня, можа і ня быць, на іх месца будзе.

*Тэма для пісьмовай працы*, у якой тыя асноўныя пытаньні, якія завочнік павінен асьвятліць у сваёй пісьмовай працы. Тэма для пісьмовай працы даецца альбо ў кожным заданьні, або на некалькі заданьняў адна, гледзячы па прадмету і тых тэмах, якія прапрацоўваюцца. Завочнікі, якія ня маюць часу пісаць працы, могуць, з дазволу навучальнай установы, зрабіць вусную праверку сваіх ведаў.

*Дадатковая літаратура*—не зьяўляецца абавязковай для прапрацоўкі—яна раіцца для тых завочнікаў, якія хацелі-б паглыбіць свае веды. Аднак сьпіс гэтай літаратуры карысны кожнаму завочніку, бо кожны павінен ведаць, якая маецца літаратура па вывучаемому прадмету.

Перад пачаткам прапрацоўкі кожнага новага прадмету даюцца яшчэ ўводзіны ў гэты прадмет, дзе

вызначаецца значэньне гэтага прадмету, яго аб'ём і яго месца ў шэрагу іншых прадметаў, якія завочнік вывучае.

Атрымаўшы заданьне, завочнік у першую чаргу знаёміцца з мэтай заданьня і ўважліва прачытвае мэтадычныя паказаньні, пасьля чаго прыступае да прапрацоўкі вучэбнага матар'ялу, вырашэньня задач, пастаноўкі досьледаў і г. д.

### Брыгадны мэтад працы

З мэтай найлепшай прапрацоўкі заданьняў праводзіцца калектыўная прапрацоўка іх у брыгадзе, якая складаецца з 3—10 асоб, вывучаючых адну і тую-ж спэцыяльнасьць, альбо вывучаючых аднолькавыя прадметы, напр., палітэканомію, ленінізм і інш.

Атрымаўшы эд навучальнай установы заданьне, брыгадзір склікае брыгаду, дзе, пасьля азнаямленьня з заданьнем, вырашаецца парадак і тэрмін яго прапрацоўкі. Пры неабходнасьці вырашыць практычныя задачы і досьледы, напрыклад, вызначэньне гаспадарчай годнасьці насеньня, брыгадзір падзяляе працу такім чынам, каб кожны член брыгады выконваў пэўную частку гэтага досьледу. Напрыклад, аднаму даецца вызначыць ускоджасьць насеньня, другому—засьмечанасьць і г. д.

У пэўна вызначаныя дні і гадзіны члены брыгады зьбіраюцца на агульныя заняткі.

Пасьля сканчэньня досьледаў—кожны член брыгады дакладвае аб выніках і аб спосабах працы ў брыгадзе, у прысутнасьці кансультанта, дзе і даецца ацэнка працы кожнага члена паасобку і ўсёй брыгады ў цэлым.

Адказ на кантрольныя запытаньні, складаньне кантрольнай працы робіцца кожным завочнікам самастойна (індывідуальна). Калі завочнік што не зразумее, ён зьвяртаецца да кансультанта, або ў навучальную ўстанову, або ставіць пытаньне на абгавараньне брыгады.

Брыгада неаслабна глядзіць за тымі таварышамі, якія не пасьпяваюць, якія адстаюць, аказваючы ім дапамогу шляхам прымацаваньня іх да больш моцных таварышоў і дадатковай дапамогі з боку кансультацыйнага пункту. Найбольш актыўных і добрасумленных брыгада вылучае да прэміяваньня. Для чаго гаспадарчымі арганізацыямі ўтвараецца спэцыяльны фонд.

Лепшую прапрацоўку матар'ялу і датэрміновае сканчэньне курсу вучобы забясьпечваюць сацыялістычныя мэтады працы—сацспаборніцтва і ўдарніцтва, якія шырока разгортваюцца як паміж брыгадамі, таксама і паасобнымі членамі ў брыгадзе.

Сацспаборніцтва і ўдарніцтва ўключаюць наступныя паказчыкі: а) лепшую прапрацоўку курсу; б) скарачэньне тэрміну навучаньня; в) актыўны ўдзел у гаспадарчых і палітычных кампаніях; г) актыўны ўдзел у рацыяналізацыі с.-г. вытворчасьці; 5) вынаходніцтва, дасьледчая праца, уздым вытворчасьці працы і да т. п.

### Кансультацыйныя пункты

Каб прыблізіць да студэнта-завочніка вусную кансультацыю—пры ўсіх гаспадарках (калгас, саўгас, МТС), дзе маюцца завочнікі, арганізоўваюцца кансультацыйныя пункты з складу мясцовых спэцыялістых. Калі ў гаспадарцы мала завочнікаў, яны прымацоўваюцца да бліжэйшага пункту. Кансультацыя будуецца такім чынам, каб актывізаваць завочніка, каб дапамагчы яму шляхам паясьненьня вузлавых пытаньняў, самастойна і ў брыгадзе, каб падвесьці яго да самастойнага вырашэньня пытаньня і ўвязкі гэтага пытаньня з вытворчасьцю. На кансультацыйных пунктах завочнікі змогуць атрымаць дапамогу ня толькі па пытаньню прапрацоўкі тэмы, але-ж і па пытаньнях арганізацыі заняткаў, плянаваньня часу і г. д.

Кансультацыя праводзіцца сыстэматычна, у пэўныя дні і гадзіны, у форме заняткаў са ўсёй брыгадай і паасобку. Кожны завочнік прымацоўваецца да пэўнага кансультанта. Кансультанты, згодна пастановы вышэйшых арганізацый, утвараюцца і належным чынам абсталёўваюцца (радыё, даведнікі, літаратура і г. д.) за рахунак гаспадарчых арганізацый.

### Рэцэнзаваньне

Пасьля прапрацоўкі завочнікам заданьня—ён складае на зададзеную тэму пісьмовую працу і адсылае яе ў завочны сэктар на праверку. (Пры брыгаднай вучобе пісьмовыя працы ўсіх членаў брыгады могуць адсылацца адразу—у адным канвэрце). Кожная пісьмовая праца пав[я]раецца ў сэктары спэцыялістым-рэцэнзэнтам. (Рэцэнзэнтам называецца той, хто правярае пісьмовую працу, дае аб ёй водзыў і парады аб далейшай працы завочнікаў).



Іспыт трыера на МТС.

Задачай рэцэнзэнта зьяўляецца ня толькі паверка выкананьня, але і (галоўным чынам) ідэолёгічнае і мэтадычнае кіраўніцтва заняткамі завочніка на аснове марксыцка-ленінскай мэтадалёгіі. Пасьля паверкі праца завочніка з заўвагамі і тлумачэньнямі рэцэнзэнта, зьвяртаецца завочніку. У выпадку, калі ў працы надта многа памылак, або калі завочнік не адказаў на такія пытаньні, без вырашэньня якіх немагчыма прапрацоўка далейшых тэм—праца зьвяртаецца для паўторнай прапрацоўкі.

### Лябараторна-сэмінарскія сэсіі

Ёсьць цэлы шраг дысцыплін, якія па падручніках толькі ня можна вывучыць, праверыць таго, аб чым гаворыцца ў падручніках, і на вытворчасьці, таму, што ня ўсюды дзеля гэтага ёсьць належнае абсталяваньне і прылады.

Такія прадметы, як фізыка, хімія, фізыолёгія мікрабіолёгія і г. д. патрабуюць якраз такога абсталяваньня цэлых лябараторый. Вось для прапрацоўкі, галоўным чынам, такіх прадметаў, якіх на месцы нельга прапрацаваць, завочнікі ВНУ і тэхнікумаў на 1—1½ месяца выклікаюцца ў навучальную ўстанову. Акрамя гэтага ў навучальнай установе прапрацоўваюцца і такія прадметы, для якіх непатрэбна складанага абсталяваньня, але-ж якія павінны быць удасканалены шляхам сэмінарскай прапрацоўкі, пад кіраўніцтвам выкладчыка.

Лябараторна-сэмінарскімі сэсіямі, па мажлівасьці, ахапляюцца усе дысцыпліны; праграмы лябараторна-сэмінарскіх сэсій у асноўным саўпадаюць з праграмамі лябараторнай крытыкі студэнтаў стацыянарных навуковых устаноў.

Лябараторна-сэмінарскія сэсіі зьяўляюцца адным з важнейшых момантаў у завочнай вучобе і яны шчыльна ўвязваюць завочнае навучаньне з вочным, і ў часе лябараторна-сэмінарскіх сэсій завочнік набывае навыкі дасьледчай працы; яны садзейнічаюць канкрэтызацыі тых ведаў, якія набыты завочнікам з падручнікаў і зьнішчэньню тых памылковых уяўленьняў, якія маглі скласьціся ў завочніка.

На лябараторна-сэмінарскія сэсіі выклікаюцца тыя завочнікі (ВНУ і тэхнікуму), якія прапрацавалі пэўную (вызначаную навучальным планам) частку навучальнага матар'ялу.



Іспыт трактара пасьля рамонту.

### Вучэбныя канфэрэнцыі

З завочнікамі па курсу брыгадзіраў праводзяцца 2—3 разы ў год раённыя, ці гнездавыя вучэбныя канфэрэнцыі з мэтай асьвятленьня асноўных пытаньняў курсу, жывога мэтадычнага кіраўніцтва і вучоту прапробленай працы. Канфэрэнцыя праводзіцца на вытворчасьці—у лепшых саўгасах, калгасах, МТС, з удзелам выкладчыкаў завочнага сэктару, мясцовых спэцыялістых (кансультантаў), прадстаўнікоў парт.-камсамольскіх і прафсаюзных арганізацый.

Асноўнымі пытаньнямі канфэрэнцыі зьяўляюцца пытаньні мэтодыкі (спосабаў) завочнага навучаньня, пытаньні аб тым, як працаваць над кніжкай, як паставіць досьлед, як увязаць тэарэтычную вучобу з вытворчасьцю і г. д.

Канфэрэнцыя выяўляе недахопы і перашкоды, з якімі сустракаюцца завочнікі ў працэсе вучобы, намячае канкрэтныя прапановы да іх зьнішчэньня, да паляпшэньня кансультацыі, мэтадычнага абслугоўваньня, скарыстаньня радыё, кіно і інш.

### Радыё, кіно

Надзвычайна вялікую ролю ў завочным навучаньні адыгрываюць радыё і кіно. Па радыё перадаюцца ўстановачныя тлумачэньні па пытаньнях прапрацоўкі разасланых завочнікам матар'ялаў (заданьняў), арганізоўваюцца калектыўныя прапрацоўкі (радыёканфэрэнцыі) паасобных тэм, чытаюцца даклады і лекцыі па найбольш актуальным пытаньням, даецца кансультацыя і г. д. Кіно, як „навочны дапаможнік" надзвычайна палягчае ўразуменьне таго ці іншага працэсу, напрыклад, хімічнага аналізу, фізычнага досьледу, працы машыны і г. д.

### Вытворчая практыка

Студэнты стацыянарнай навучальнай установы павінны штогодна адбываць вытворчую практыку, гэта значыць працаваць на вытворчасьці ў той галіне, па якой яны навучаюцца. Гэтая праца на вытворчасьці займае 40—50 проц. ад усяго часу навучаньня студэнта.

Завочнікі таксама адбываюць вытворчую практыку, але ім недаводзіцца нікуды выяжджаць для гэтага, бо яны ўвесь час працуюць на вытворчасьці. Выключэньні могуць быць толькі ў адносінах тых завочнікаў, якія працуюць не па той спэцыяльнасьці, па якой навучаюцца. Такім завочнікам таксама, як і студэнтам стацыянарнай навучальнай установы, даецца поўная мажлівасьць адбыць вытворчую практыку ў адпаведнай гаспадарцы.

### Праверка ведаў

Праверка ведаў завочнікаў праводзіцца на працягу ўсяго часу навучаньня. Для гэтай мэты служаць: 1) пісьмовыя працы завочнікаў на тэмы, якія даюцца ў заданьнях, 2) матар'ялы лябараторна-сэмінарскіх сэсій, кансультацыйных пунктаў, канфэрэнцый, зьездаў, 3) даныя аб тым, наколькі завочнік ужывае здабытыя веды ў вытворчасьці, у грамадзкай працы і г. д.

Наогул, усе моманты вучобы і працы на вытворчасьці даюць матар'ял для таго, каб судзіць аб посьпехах кожнага завочніка.

Скончыўшым навучальныя ўстановы завочнікам выдаюцца такія-ж самыя дакуманты, як і скончыўшым стацыянарныя навучальныя ўстановы.

В. Крэйдзіч.

# РАЎНЯЦЦА ПА ВЕТРЫНСКАЙ МТС

*(Полацкі раён)*

Ветрынская МТС, Полацкага раёну, па-бальшавіцку разгарнула падрыхтоўку да вясны. На станцыі маецца каля 30 трактароў, шмат сельскагаспадарчых машын і прылад.

Яшчэ з восені 1931 г. МТС прыступіла к збору і рамонту машын, якія за апошні час знаходзіліся на працы ў калгасах. Для пасьпяховай працы па рамонту, МТС прыцягнула трактарыстых і старшых рулявых.

З 1-га студзеня пры МТС праходзяць курсы старшынь рулявых з трактарыстых-калгасьнікаў. Курсы скліканы на два з паловай месяцы з мэтай падвышэньня іх кваліфікацыі. Разам з тэарэтычнай падрыхтоўкай, значная ўвага аддаецца практычнай працы курсаў. Курсанты цалкам забясьпечаны працай у майстэрнях па вывучэньні трактара і іншых складаных сельскагаспадарчых машын. МТС к вясьне будзе поўнасьцю забясьпечана кадрамі.

На 20 студзеня машына-трактарная станцыя выпусьціла з рамонту 75 проц. машын і плугоў.

Для рамонту трактароў не хапае шмат запасных частак, але мэханікі МТС знайшлі выхад у прыстасаваньні старых частак машын і г. д., каб забясьпечыць посьпех рамонту к вясьне.

Уся праца праходзіць па-брыгадна. Кожная брыгада ў майстэрнях працуе да скончаньня рамонту машыны, а потым пераходзіць да другой сельскагаспадарчай машыны, з тым разьлікам, каб кожны з брыгады ўмеў і вывучыў кожны тып машыны.

Па ўсім калгасам, абслугоўваючым МТС, праведзен вучот сельскагаспадарчых машын з мэтай выяўленьня іх працаздольнасьці і арганізацыі дапамогі ў рамонце.

Праведзены курсы рахункаводаў для калгасаў. Зараз разгорнута праца па складаньню вытворча-фінансавых плянаў у калгасах МТС.

Пад кіраўніцтвам агранома МТС арганізавала буксірныя брыгады з лепшых калгасьнікаў і кінула на дапамогу камуне N-ай дывізіі, якая адстае ў падрыхтоўцы да сяўбы.

**Л. Сьмелы.**

# Райкалгассаюз мала клапаціцца аб падрыхтоўцы да сяўбы

*(Чэрвеньскі раён)*

Зусім зразумела, што веснавая пасеўная кампанія гэтага году мае выключна важнае гаспадарча-палітычнае значэньне. Посьпяхова арганізаваць падрыхтоўку да трэцяй бальшавіцкай вясны, пераможна правесьці сяўбу — гэта значыць забясьпечыць посьпех выкананьня намечанай партыяй і ўрадам праграмы 1932—заключнага году пяцігодкі. Таму, на падрыхтоўку і правядзеньне гэтай важнейшай гаспадарча-палітычнай кампаніі павінна быць мабілізавана ўвага партыйных, прафсаюзных, камсамольскіх і савецкіх арганізацый і ўсёй калгаснай сыстэмы.

Аднак, не ва ўсіх раёнах аддадзена належная ўвага веснавой пасеўнай кампаніі. У нас, напрыклад, у Чэрвеньскім раёне некаторыя арганізацыі надзвычайна мала зьвяртаюць увагі падрыхтоўцы да веснавой сяўбы. Ня гледзячы на тое, што райком КП(б)Б даў зусім выразныя дырэктывы аб падрыхтоўцы да трэцяй бальшавіцкай вясны, Райкалгассаюз да гэтага часу яшчэ надта непаваротліва выконвае дырэктыву раённага камітэту партыі. Райкалгассаюз ня даў ніякай дырэктывы па калгасах аб падрыхтоўцы да сяўбы.

Дзякуючы гэтаму мы маем такое становішча, што падрыхтоўка да веснавой сяўбы праходзіць самацёкам. Рамонт трактароў і сельскагаспадарчых машын пачаўся толькі ў канцы студзеня, а ачыстка насеньня ў большасьці калгасаў і да гэтага часу не распачата. Да складаньня вытворча-фінансавых плянаў у калгасах ня прыступлена.

Сярод калгасьнікаў пануе настрой, што „да сяўбы яшчэ далёка, таму няма чаго сьпяшыць з падрыхтоўкай“. Нават старшыня райкалгассаюзу заяўляе:

— Пакуль ня прыедуць з Наркамзему, ці з Калгасцэнтру і не складуць нам плян, мы нічога ня можам зрабіць таму, што ў нас у райкалгассаюзе няма агранома.

Калі зараз жа ня будуць прыняты рашучыя меры ў адносінах райкалгассаюза і райземчасткі,—падрыхтоўка да веснавой сяўбы ў Чэрвеньскім раёне будзе сарвана. Райком партыі зараз-жа павінен праверыць, як выконваецца яго пастанова аб падрыхтоўцы да трэцяй бальшавіцкай вясны.

Калгасьнік **П. А.**

# ПАДРЫХТОЎКА ДА СЯЎБЫ РАЗГОРНУТА

*(Магілеўскі раён)*

Калгас Леніна, Вэндараскага сельсавету, на аснове правільна праведзенай сярод калгасьнікаў масавай растлумачальнай работы аб важнасьці першачарговага выкананьня сваіх абавязкаў па хлебазагатоўках перад дзяржавай і рашучай барацьбы з кулацка-спажывецкай тэндэнцыяй з посьпехам скончыў усе віды загатовак на 100 проц.

Закончыўшы гэту работу, калгас пераключыўся на разгортваньне баявой падрыхтоўкі да 3-яй бальшавіцкай вясны.

Гэта пытаньне своячасова абгаворана на праўленьні калгасу і агульным сходзе калгасьнікаў, якія пастанавілі па-баявому правесьці падрыхтоўку да веснавой сяўбы.

Ужо на сёнешні дзень прароблена вялікая работа: пасеўны матар'ял—авёс, ячмень і інш. ачышчана на 92 проц. Поўнасьцю ссыпан страхавы фонд. Выяўлены ўсе сельскагаспадарчыя машыны і сельгасінвэнтар, які патрабуе рамонту. Прыступлена да практычнай работы па рамонту. Рамонтная кампанія ў поўным разгары.

Бязумоўна, калгас Леніна па-бальшавіцку падрыхтаваўся да сяўбы, па-баявому правядзе веснавую сяўбу.

**Гедя Медлін.**

# Па баявому арганізаваць фінансавую гаспадарку калгасаў

Сярод мерапрыемстваў, якія праводзяцца партыяй і ўрадам па арганізацыйна-гаспадарчаму замацаваньню калгасаў, пытаньні арганізацыі і ўмацаваньня фінансавай гаспадаркі калгасаў набываюць асабліва важнае значэньне.

Сапраўдныя посьпехі барацьбы за падвышэньне вытворчасьці калгаснай гаспадаркі, за найбольш эфэктыўнае выкарыстаньне вялізарных матар'яльных і грашовых рэсурсаў буйнай калектыўнай гаспадаркі, магчыма дасягнуць толькі пры ўмове правільнай арганізацыі фінансаў, належнай пастаноўкі вучоту і справаздачнасьці і рашучай барацьбы з безгаспадарчасьцю. На выкананьне гэтых задач трэба мабілізаваць увагу калгасьнікаў і ўсёй савецкай грамадзкасьці.

Таму задачы аздараўленьня фінансавай гаспадаркі калгасаў павінны стаяць у цэнтры ўвагі ўсіх савецкіх, партыйных і прафсаюзных органаў у першую чаргу калгаснае сыстэмы фінансава банкаўскіх органаў.

Аднак тыя матар'ялы, якія маюцца ў нашым распараджэньні гавораць аб тым, што ў галіне арганізацыі фінансаў калгасаў зусім мала зроблена.

Вышэйшыя мерапрыемствы, якія праводзяцца ў апошні час у галіне арганізацыйна-гаспадарчага замацаваньня калгасаў, як складаньне фінпляну (разьлікаў) па калгасах за 1931 г., разьмеркаваньне прыбыткаў і ўраджаю, новы парадак крэдытаваньня, пытаньні, зьвязаныя з скарыстаньнем сельскагаспадарчых крэдытаў і г. д. зусім не папулярызаваны сярод шырокіх калгасных мас і фактычна не праводзяцца ў жыцьцё.

Гэта пацьвярджаецца наступным. Згодна дырэктыў Наркамзему і Калгасцэнтру СССР па ўсіх калгасах Саюзу павінны быць складзены фінпляны (разьлікі) за 1931 год, які мае вялікае значэньне, як для вырашэньня раду практычных фінансавых пытаньняў, так і для ўзмацненьня фінансавай гаспадаркі самага калгасу.

Аднак паасобныя раённыя арганізацыі не зразумелі ўсёй важнасьці гэтай работы. Меліся выпадкі апартуністычнай недаацэнкі як з боку калгаснае сыстэмы, так і фінорганаў і ў выніку чаго ўся праца па складаньню фінпляну (разьлікаў) за 1931 г. па БССР значна зацягнулася і фактычна сарвана.

Існаваўшы парадак крэдытаваньня мела цэлы шэраг недахопаў. Крэдыты выдаваліся без усякай увязкі з вытворчымі плянамі калгасаў, адсутнічаў кантроль за ўкладаньнем уласных сродкаў, існавала зусім непатрэбная цэнтралізацыя плянаваньня крэдытаў па вялікай колькасьці мэтавых прызначэньняў.

Па новаму закону (пастанова Саўнаркому СССР ад чэрвеня 1931 г.) крэдыты павінны ісьці выключна на мерапрыемствы па аграмаджанай гаспадарцы калгасаў, пры абавязковым укладаньні ў крэдытуемае мерапрыемства ўласных сродкаў. Адчыніўшы крэдыты калгасу, Дзяржбанк выдае яму грошы ў залежнасьці ад ступені выкананьня дагавору па здачы (продажу) таварнае прадукцыі ад выкананьня ўсіх фінансавых абавязкаў перад дзяржавай, укладаньні ўласных сродкаў на будаўніцтва, камплектаваньне сродкаў і г. д.

Зусім зразумела, што новы закон зьяўляецца адным з важнейшых вагароў у справе арганізацыі фінансавай гаспадаркі калгасаў і ўнядрэньня фінансава-крэдытнае дысцыпліны.

Аднак трэба адзначыць, што новы парадак крэдытаваньня зусім не папулярызаваны сярод шырокіх калгасных мас, а ў радзе раёнаў аб ім ня ведаюць нават органы Наркамзему і калгасная сыстэма.

Аддзяленьні Дзяржбанку па старому, у часткі крэдытаваньня калгасаў зьяўляюцца фактычна касай райкалгассаюзаў, а ня банкам, які павінен ажыцьцяўляць кантроль рублём, выкананьне вытворчых фінансавых плянаў калгасаў. У радзе раёнаў наогул не зьвяртаецца належнай увагі і гэты найбольш адказны вучастак працы банку знаходзіцца ў поўным заняпадзе.

Скарыстаньне адпускаемых калгасам крэдытаў за апошнія 2 кварталы 1931 г. праходзіла зусім нездавальняюча. Крэдытныя пляны несваячасова даводзіліся спэцкалгасцэнтрамі да раённага зьвяна, а раёнамі непасрэдна да калгасаў. Укладаньні ўласных сродкаў механічна разьмяркоўваліся па раёнах у незалежнасьці ад эканамічнай моцнасьці, адсутнічаў кантроль за правільным і эфэктыўным скарыстаньнем адпускаемых крэдытаў.

У выніку слабай масавай работы вакол фінансавых задач, адсутнасьці належнай дапамогі калгасам мы маем такое становішча, што па шэрагу раёнаў праца па разьмеркаваньні прыбыткаў ураджаю праходзіць нездавальняюча, паасобныя калгасы несваячасова выконваюць свае фінансавыя абавязкі перад дзяржавай.

Вопыт і недахопы мінулага году павінны быць цалкам скарыстаны для ажыцьцяўленьня адказьнейшых задач на гэтым вучастку ў апошнім заключным годзе пяцігодкі.

Замацаваць калгас, падвысіць яго арганізацыйна-гаспадарчую моц, гэта значыць, у першую чаргу, трэба мець правільны, яскравы і вядомы шырокім школам калгасных мас вытворча-фінансавы плян.

Пры практычным правядзеньні працы па складаньні вытворча-фінансавых плянаў неабходна ўлічваць тое, што вытворчыя і фінансавыя пляны калгасаў зьяўляюцца адным цэлым. Перш чым скласьці фінансавы плян, трэба мець правільна складзены вытворчы плян, які ў сваю чаргу можа быць складзены тады, калі калгасы сваячасова атрымаюць усе вытворчыя заданьні, прыкладныя нормы выпрацоўкі і г. д.

Усе гэтыя паказчыкі павінны быць зараз-жа даведзены непасрэдна да калгасу і прапрацаваны сярод шырокіх калгасных мас.

На час складаньня пляну асноўная маса аграномічных працаўнікоў як цэнтральных, так і раённых арганізацый павінна быць накіравана для дапамогі калгасам. Рахунковыя работнікі, фінансава-банкаўская сыстэма — павінны таксама прыняць актыўны ўдзел у гэтай рабоце.

Паасобныя прафсаюзныя арганізацыі выносяць пастановы аб мабілізацыі работнікаў для дапамогі калгасам. Так цэнтральнае праўленьне Саюзу фінансава-банкаўскіх работнікаў на апошнім паседжаньні пастанавіла мабілізаваць для дапамогі калгасам у складаньні вытворча-фінансавых плянаў ня менш 400 рахунковых працаўнікоў. Раённыя арганізацыі павінны плянава скарыстаць гэтую дапамогу, увязваючы складаньне вытворча-фінансавых

плянаў з поўным выкананьнем калгасамі ўсіх іх фінансавых абавязкаў перад дзяржаваю.

Вылучаемыя пры разьмеркаваньні прыбыткаў непадзельныя капіталы абавязкова павінны быць унесены на спэцыяльны бягучы рахунак у дзяржбанку і плянава выдаткоўвацца на працягу году на ажыцьцяўленьне праграмы капітальнага будаўніцтва калгасаў.

У галіне ажыцьцяўленьня новага парадку крэдытаваньня і правільнага—эфэктыўнага скарыстаньня крэдытаў—неабходна сапраўды ўзяцца па-баявому за папулярызацыю новага закону сярод калгасных мас і правесьці яго ў жыцьцё.

Раённыя арганізацыі, калгасная сыстэма павінны памятаць, што без прадстаўленьня ў дзяржбанк вытворча-фінансавых плянаў, без выкананьня дагавароў па здачы (продажу) таварнае прадукцыі—крэдыты Дзяржбанкам выдавацца ня будуць, і апошні будзе весьці суровы „кантроль рублём“ пры крэдытаваньні вытворчых мерапрыемстваў.

Інтарэсы грашовага звароту краіны, інтарэсы саміх калгасаў (лепшае захоўваньне грошай, меншыя затраты пры разьліках і г. д.)—патрабуюць шырокага ўжываньня безнаяўных разьлікаў пры рэалізацыі таварнае прадукцыі, захоўваньня свабоднае грашовае наяўнасьці ў касах дзяржбанку. Гэтыя задачы павінны быць шырока папулярызаваны сярод калгасных мас. Адначасова трэба ўстанавіць сталы кантроль за тым, каб бяз ведама і згоды самаго калгасу не вытвараліся сьпісаньні з бягучых рахункаў калгасаў у крэдытных установах за выключэньнем выпадкаў, устаноўленых законам.

Вучот і справаздачнасьць у радзе калгасаў знаходзіцца ў нездавальняючым становішчы. Акрамя тых мерапрыемстваў, якія намечаны ў галіне падрыхтоўкі разрахункових кадраў у 1932 г., для сыстэматычнай дапамогі калгасам у галіне ўпарадкаваньня вучоту і справаздачнасьці, па ўсіх раёнах павінны быць скліканы раённыя канфэрэнцыі разхунковых працаўнікоў для выпрацоўкі канкрэтных форм дапамогі калгасам у арганізацыі іх фінансавай гаспадаркі на працягу году.

Вялікую ролю ў справе аздараўленьня фінансавай гаспадаркі калгасаў — кантроль над мэтазгодным і эфэктыўным скарыстаньнем сродкаў — павінны адыгрываць рэвізійныя камісіі. Між тым, у большасьці калгасаў рэўкамісіі бязьдзейнічаюць, актывізацыяй іх працы ніхто не займаецца. Райкалгассаюзы павінны практычна дапамагаць у працы рэўкамісій, выпрацаваўшы канкрэтныя паказчыкі аб арганізацыі кантролю над скарыстаньнем сродкаў.

Уся праца па ўмацаваньню і арганізацыі фінансавай гаспадаркі калгасаў павінна праводзіцца выпрабаванымі сацыялістычнымі мэтадамі — спаборніцтва і ўдарніцтва. Неабходна выяўляць вопыты лепшых калгасаў па выкананьні імі ўсіх фінансавых абавязкаў перад дзяржавай, прыкладнай арганізацыі фінансавай гаспадаркі, шырока скарыстоўваючы гэтыя вопыты ў адстаючых калгасах, шляхам арганізацыі пасылкі брыгад з калгасьнікаў, асьвятленьня вопыту передавікоў у друку і г. д. У кожным раёне, сельскім савеце неабходна арганізаваць паказальныя па пастаноўцы і вытворча-фінансаваму плянаваньню калгасы, на якіх павінна быць згрупавана ўвага мясцовай савецкай грамадзкасьці.

Практыка паказала, што там, дзе вакол фінансавых задач належным чынам пастаўлена масавая работа—калгасы, калгасьнікі зьяўляюцца сапраўды барацьбітамі і арганізатарамі ў правядзеньні фінансавых мерапрыемстваў на вёсцы, прымаючы актыўны ўдзел у распаўсюджаньні пазыкі, акцый трактарацэнтру, у выкананьні і перавыкананьні ўсіх заданьняў па мабілізацыі сродкаў у аднаасобным сэктары. Выяўленьне і замацаваньне на фінансавай рабоце гэтага активу з ліку ўдарнікаў-калгасьнікаў—баявая задача раённых арганізацый.

Трэба памятаць, што барацьба за фінансавы плян у калгасах—ёсьць барацьба за моцны калгас.

**Н. Дзядзюшка.**

# Выклікаем на сацспаборніцтва па распаўсюджваньні часопісі „Шляхі Калектывізацыі“

Мы работнікі газэты „Калгасьнік Мазыршчыны“ і карэспандэнты часопісі „Шляхі Калектывізацыі“ бярэм на сябе наступныя абавязацельствы па распаўсюджаньні часопісі:

1. Завербаваць ня менш 100 падпісчыкаў на часопісь „Шляхі Калектывізацыі“ за час нашага выезду па раёну.

2. Ахапіць падпіскай на часопісь кожную хатучытальню, кожны чырвоны хуток, установу, з такім разьлікам, каб у час нашага выезду на раён, у сельсаветы не пакінуць ніводзін калгас не ахопленым падпіскай на часопісь „Шляхі Калектывізацыі“.

3. Штодзенна праводзіць работу па распаўсюджаньні часопісі сярод калгасьнікаў, беднякоў і серадьнякоў-аднаасобнікаў.

4. Абавязуемся вербаваць новых зборшчыкаў падпіскі на часопісь.

5. Выклікаем на сацспаборніцтва ўсіх рабселькораў і падпісчыкаў часопісі „Шляхі Калектывізацыі“ пасьледваць нашаму прыкладу.

Чакаем водгукаў на наш выклік праз часопісь „Шляхі Калектывізацыі“.

**А. Кузьмянок, С. Зайцаў.**

**Адказныя рэдактары: С. МІЦЬКОЎ. Н. МІХАЙЛАЎ.**

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 254. 1900 экз. Уп. Галоўлітбелу № А—2.




На 1 год—24 нумары 3 р.
„ 6 мес.—12 „ 1 р. 50 к.
„ 3 мес. 6 „ — 75 к.
„ 1 „ 2 „ — 25 к.

ПАДПІСКУ ЗДАВАЙЦЕ НА ПОШТУ АЛЬБО ЛІСТАНОСЦУ

Адрас рэдакцыі часопісу: